15 снежня 2017 | № 47 (561)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Ці захопіць Цукерберг Белы дом?

Стар. 9

**4 СПРАВА НЕ Ў НАРОДЗЕ, А ВА ЎЛАДЗЕ**

З адным і тым жа народам можна рэалізаваць розныя мадэлі развіцця. І дыктатарскі рэжым валодае вялікімі магчымасцямі зацвердзіць той лад, які выгадны яму

**6–7 СЛОВЫ І ВЕРА АЛЕСЯ ПАШКЕВІЧА**

Жыццёвы шлях Алеся Пашкевіча красамоўна пацвярджае, што за словы (калі яно сапраўды шчырае) трэба змагацца



**10 ДАРАГІЯ СВІНЫЯ СКУРЫ**

Асмольваць зарэзаных свіней строга забаранялася. Да разборкі тушы свіную скуру трэба было аблупіць бярозавай ці дубовай лапатачкай і здаць — амаль задарма — дзяржаве

**11 «МЫ – ЛЁД ПАД НАГАМІ МАЁРА»**

Антысістэмны пафас песень Летава і гісторыя рэпрэсій супраць музыкаў у таталітарнай дзяржаве будуць актуальныя яшчэ доўга

# Выйсці з парадыгмы

**Мы ўпарта перамагаем тое, што самі стварылі 19 снежня 2010 года**



Сяргей ПУЛЬША

Падзеі 19 снежня 2010 года, калі быў жорстка разагнаны пратэст народа супраць афіцыйных вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, паставілі доўгі крыж на лібералізацыі і нармалізацыі адносінаў з Захадам.

Калі хто забыўся, нагадаем: у выніку падзей 19.12.2010 краіна атрымала больш за паўтары тысячы адміністрацыйна арыштаваных, больш за два дзясяткі палітызаваных крымінальных спраў, якія «развязваліся» на працягу ўсяго 2011 года. Еўропа ў адказ увяла маштабныя эканамічныя і палітычныя санкцыі, якія былі знятыя толькі напачатку 2016 года. У стасунках з Захадам у выніку тых падзеяў краіна была адкінутая назад на невядома колькі часу. І зараз мы яшчэ не пераадолелі наступстваў, якія былі створаныя той сітуацыяй.

На Беларусь па-ранейшаму глядзяць з насцярожанасцю, чакаючы ад яе непрадказальных і небяспечных крокаў. Магчыма, не дарэмна.

Варта зазначыць, што галоўная заслуга ў той нармалізацыі стасункаў з Захадам, што мы бачым зараз, — зусім не ўлады і не Аляксандра Лукашэнкі. Па вялікім рахунку, яго палітыка з 2010 года не змянілася ніяк. Гэта мы пабачылі сёлета ўвесну, калі 25 сакавіка Мінск наваднілі салдаты ўнутраных войскаў, а людзей, якія выйшлі мірна святкаваць Дзень Волі, масава раскідвалі па «аўтазаках».

Дзякаваць за нармалізацыю адносінаў кіраўніцтву Беларусі трэба, перш за ўсё, неабачлівай агрэсіўнай палітыцы кіраўніцтва Расіі і Уладзіміру Пуціну персанальна. Каб ён не анексаваў Крым, каб ён не стварыў «рускую вясну» ў Данбасе і не стаў бы для Еўропы першым у спісе небяспекаў — мы б так ні да чаго і не дамовіліся б. Нагадаем, што міжнародны імідж Беларусі не выратаваў нават Чэмпіянат свету па хакеі, які прайшоў у краіне ў 2014 годзе. І толькі перамовы «нармандскай чацвёркі» ў Мінску па Данбасе ў лютым 2015-га дазволілі краіне паказаць сябе не «апошняй дыктатурай Еўропы», а перамоўнай пляцоўкай, «выспай стабільнасці» і гэтак далей.

Нават тое, што прэзідэнцкія выбары 2015 года прайшлі без вялікіх узрушэнняў, — таксама дэманстрацыя не «лібералізацыі» беларускага рэжыму. Здарылася гэта, бо беларусы не хацелі, каб «было так, як ва Украіне».

То бок, для нас проста спрыяльна склаліся знешнія фактары. А ўжо на фоне гэтых знешніх фактараў беларускае знешнепалітычнае ведамства пачало выбудоўваць тую самую «стратэгію нармалізацыі адносінаў», у выніку якой з Сінявокай былі знятыя еўрапейскія і частка амерыканскіх санкцый.

Прычым, узнікае ўражанне, што беларускі МЗС з гэтай сітуацыі спрабуе выціснуць усё, што можна, і «куе жалеза, не адыходзячы ад касы». Мы ўвялі пяцідзённы «бязвіз» для грамадзянаў 80 краін свету (на падыходзе 10-дзённы), мы імкнёмся пашыраць супрацоўніцтва з ЕС па ўсіх мажлівых і немажлівых напрамках. У Мінску праходзіць саміт Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, куды намесніца міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына прэтэндуе на ролю старшыні. І Аляксандра Рыгоравіча запрашаюць на саміт Усходняга Партнёрства ў Брусэлі. Праўда, замест гэтага кіраўнік Беларусі аддаў перавагу Буда-Кашалёву.




Імпэту беларускага знешнепалітычнага ведамства можна пазайздросціць. І, будзем шчырымі, беларускія дыпламаты спяшаюцца слушна. Менавіта таму, што ўнутраная палітыка Сінявокай застаецца без зменаў, ім трэба ў максімальна кароткія тэрміны зрабіць так, каб дасягнутыя знешнепалітычныя вынікі ператварыліся ў незваротныя. Каб, не дай Божа, у выніку паўтору 19.12.2010 не зруйнавалася ўсё тое, чаго яны дасягнулі за апошнія тры гады.

І ў нечым гэта атрымліваецца. Зноў узгадаем падзеі сёлетняй вясны — нягледзячы на масавы разгон гіпатэтычнай пратэстнай акцыі і крымінальны пераслед у межах «Справы патрыётаў» і «Справы прафсаюзаў», еўрапейскія палітыкі галосна не патрабавалі адрадзіць санкцыі. Верагодней за ўсё, і шэфу беларускага МЗС Уладзіміру Макею, і самому Аляксандру Лукашэнку кулуарна

**Нармалізацыя адносінаў з Захадам — сітуацыйная, а зменаў ва ўнутранай палітыцы не адбылося**

было ўказана на недарэчнасць з'яўлення новых палітвязняў у краіне. Таму «Справу патрыётаў» да суда пакуль не давялі, і ўжо наўрад ці давядуць. Прынамсі, у тым аб'ёме, у якім маглі б гэта зрабіць.

19 снежня 2010 года была зададзеная пэўная парадыгма нашых адносінаў з сусветам, з якой мы зараз пакрысе выкараскваемся. Усе дасягненні знешняй палітыкі Беларусі — гэта якраз спроба выйсці з той парадыгмы канфрантацыі і недаверу, якія стварыліся менавіта тады. Не было б тых падзеяў — можа быць, мы б не называлі нашу знешнюю палітыку «дасягненнямі», а «Наша Ніва» не друкавала б партрэт Макея на першай газетнай паласе.

Але, паўтаруся: наша нармалізацыя адносінаў з Захадам — сітуацыйная, а зменаў ва ўнутранай палітыцы і рэпрэсіўнай логіцы рэжыму не адбылося. Таму 19 снежня 2010 года можа паўтарыцца ў любы момант. І наўрад ці мы знойдзем «другую Украіну» і «другога Пуціна», каб зноў скарыстаць знешні фактар для «прарыву ў ЕС».

# Парушэнняў няма

**Брэсцкія журналісты Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава прайшлі ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі, каб абскардзіць дзеянні праваахоўнікаў.**

Вярхоўны суд Беларусі адхіліў скаргі журналістаў, як і ўсе судовыя інстанцыі раней.

Журналістаў жорстка затрымалі ў Кобрыне 18 сакавіка пасля асвятлення акцыі недармаедаў. Іх збілі, забралі тэхніку і склалі два пратаколы: за «парушэнне заканадаўства аб СМІ» і «непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў». Журналісты заяўляюць, што міліцыянты пагражалі ім расстрэлам.

Суд Кобрынскага раёна 13 красавіка пакараў журналістаў штрафам памерам амаль у 2000 рублёў.

Пасля гэтага журналісты прайшлі ўсе судовыя інстанцыі Беларусі, але нідзе не дабіліся справядлівасці.

«Гэта быў своеасаблівы эксперымент, каб паказаць, што ў Беларусі няма такіх структур, як суды і пракуратура. Мы напісалі скаргі куды толькі было магчыма — на ўсе ўзроўні міліцыі, Следчага камітэту, пракуратуры, і ўсюды мы атрымлівалі адпіскі, нашымі скаргамі гулялі ў гарачую бульбу. Прайшлі ўсе ўзроўні судоў — суд Кобрынскага раёну, Берасцейскі абласны суд, старшыню Берасцейскага абласнога суда, Вярхоўны суд. І хоць мы не дабіліся праўды, заклікаю беларусаў масава пісаць скаргі, калі вашы правы парушаны, рана ці позна гэта дасць вынік», — распавёў Алесь Ляўчук.

Тым часам Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава збіраюцца рыхтаваць скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН.

**belsat.eu**

# Беларусь — ЕС

**Беларусь гатовая пачаць з Еўрасаюзам перамовы аб заключэнні пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве.**

«Мы гатовыя пачаць перамовы аб заключэнні базавага пагаднення, — сказаў намеснік міністра замежных спраў Алег Краўчанка. — Гэта пытанне (калі пачнуцца перамовы. — БелаПАН.) трэба задаць ЕС. Яны былі гатовыя ў значна меншай ступені. Але я з задавальненнем убачыў, што еўракамісар Ёханес Хан заявіў аб гатоўнасці пачаць абмеркаванне элементаў будучага пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве, калі ён сустракаўся з нашым прэм'ер-міністрам на беларуска-еўрапейскім інвестыцыйным форуме ў Люксембургу».

Паводле слоў Краўчанкі, такая заява еўракамісара — «добры знак». «Канкрэтнай дамоўленасці пра пачатак перамоваў яшчэ няма, але я з аптымізмам гляджу на гэту магчымасць», — адзначыў намеснік кіраўніка беларускага МЗС.

На пытанне, ці будзе пагадненне з Беларуссю адрознівацца ад аналагічных пагадненняў ЕС з іншымі краінамі, Краўчанка адказаў: «Гэтага мы яшчэ не ведаем. Мы павінны будзем сесці за стол і пагледзець, што можа зрабіць ЕС, і што можам мы. Гэта будзе перамоўны працэс, таму пакуль рана пра гэта казаць».

**БелаПАН**

# Беларускамоўныя класы магчымыя

Стварэнне беларускамоўных класаў у кожнай установе агульнай сярэдняй адукацыі горада магчыма», — такі адказ ад старшыні Маладзечанскага райвыканкаму Аляксандра Яхнаўца атрымалі актывісты Беларускай хрысціянскай дэмакратыі з Маладзечна на свой зварот.

Праўда, гарадскі кіраўнік адразу ж удакладніў, што для адкрыцця класаў неабходная дастатковая колькасць бацькоў, «зацікаўленых у беларускамоўнай адукацыі, для адкрыцця класа як структурнай адзінкі ўстановы».

Актывісты збіралі подпісы за тое, каб у заяву пры пастаноўцы на ўлік у дзіцячы садок уключыць выбар мовы навучання, а таксама за стварэнне і наяўнасць у кожным беларускім садку і школе беларускамоўных груп і класаў.

«Фактычна Аляксандр Яхнавец адмовіў у рэалізацыі прапаноў», — адзначыў каардынатар БХД у Маладзечне Раман Ганчароў.

Таксама актывісты атрымалі адказ з Міністэрства адукацыі. «Сярод усёй вады пра тое, як у нас нібыта развіваецца і падтрымліваецца беларуская мова, цікавасць выклікаюць толькі два моманты: пра тое, што пры залічэнні дзіцяці ў першы клас бацькам павінны распавядаць пра магчымасць атрымання беларускамоўнай адукацыі, а ў школах-такі можна выкладаць гісторыю Беларусі па-беларуску. Але наколькі гэтыя прынцыпы рэалізуюцца на практыцы, а не застаюцца на паперы, думаю, ведаеце самі», — дадаў актывіст..

**bchd.info**

# Прад'яўленае абвінавачванне фігуранту «справы патрыётаў»

**Адзіны патрон, які няведама колькі гадоў пыліўся ў шафе ў якасці сувеніра, можа стаць прычынай доўгатэрміновага зняволення для былога фігуранта справы аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў.**

Андрэю Бяляўскаму, супраць якога была распачата крымінальная справа за захоўванне патрона, прад'яўленае афіцыйнае абвінавачванне па ч. 2 арт. 295 КК РБ (незаконныя выраб, набыццё, перадача ў валоданне, збыт, захоўванне, перавозка, перасылка або нашэнне агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў, выбуховых рэчываў і г.д.). Пра гэта Бяляўскі паведаміў сябрам 12 снежня, пасля чарговага допыту ў Следчым камітэце, піша праваабаронча сайт.

Магчымае пакаранне па гэтым артыкуле — папраўчыя работы на тэрмін да двух гадоў, або арышт на тэрмін да трох месяцаў, ці абмежаванне волі на тэрмін да пяці гадоў, або пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

Андрэй Бяляўскі падчас допыту перадаў следчаму, які вядзе справу, хадайніцтва аб спыненні крымінальнага пераследу, з просьбай прызнаць яго ўчынак з захоўваннем патрона не ўяўляючым грамадскай небяспекі і юрыдычна нязначным.

Улічваючы гэтыя юрыдычныя акалічнасці і магчымыя наступствы, праваабаронца Валянцін Стэфановіч, каментуючы ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць Андрэя Бяляўскага, заклікаў Следчы камітэт быць паслядоўным і праявіць прававую логіку:

«Паколькі Следчы камітэт, які спыніў крымінальны пераслед фігурантаў справы, у ходзе папярэдняга расследавання ўстанавіў, што «аналізуючы ў сукупнасці сабраныя доказы, следства прыйшло да высновы, што дзеянні фігурантаў справы так званага «Белага легіёна» фармальна ўтрымліваюць прыкметы стварэння незаконнага ўзброенага фарміравання, але гэтыя дзеянні абвінавачаных не былі накіраваны на гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу ці тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы, а таксама на здзяйсненне якіх-небудзь іншых супрацьпраўных дзеянняў», яны не ўяўляюць грамадскай небяспекі, уласцівай злачынствам, паколькі не прычынілі істотную шкоду ахоўваемым законам інтарэсам і грамадскім адносінам», то дзеянні абвінавачаных, з улікам выкладзенага, у адпаведнасці з ч. 4 арт. 11 КК, прызнаныя нязначнымі».

Мастак-дызайнер з Мінска Андрэй Бяляўскі быў затрыманы 21 сакавіка і абвінавачаны па частцы 3 артыкула 293 Крымінальнага кодэксу «Навучанне і падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках» і арт. 287 Крымінальнага кодэкса («Стварэнне незаконнага ўзброенага фарміравання»). Адпушчаны з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе 2 чэрвеня са спыненнем справы па арт. 287 КК.

**spring96.org**

# Данат Скакун у калоніі здаў іспыты за 9 клас

**Былы гімназіст Данат Скакун, якога асудзілі на 8 гадоў калоніі, нарэшце здаў экзамены за 9 клас. Прычым, на тры дзявяткі. Гэта адбылося ў Бабруйскай выхаваўчай калоніі.**

Хутка Данат павінен пайсці ў дзясяты клас у калоніі. Па словах маці хлопца Аліны Зенкевіч, насустрач пайшоў дырэктар школы пры калоніі. Ён параіў бацькам зноў звяртацца ў Мінадукацыі па дазвол на здачу экзаменаў — і ўсё атрымалася.

«Сын вельмі рады. Ён быў залічаны ў дзявяты клас і мог бы яшчэ цэлы год губляць час», — кажа Аліна.

Дапамагала Данату рыхтавацца да экзамену па беларускай мове Святлана Богуш.

«Гэта настаўніца. Яна проста стала з ім перапісвацца і спытала, ці хоча ён, каб яна яму дапамагала. Ён пагадзіўся. Мы не знаёмыя з ёй. Гэта проста неабыякавы чалавек. Мы ёй вельмі ўдзячныя», — працягвае Аліна.

Па словах Святланы Богуш, яе вельмі ўзрушыла гісторыя Даната, таму яна прыдумала наладзіць навучальнае ліставанне — каб перапіска мела не толькі маральную падтрымку, але і «практычную карысць»:

«Я напісала па-беларуску, прапанавала яму адказваць на той мове, на якой яму зручней. І вельмі ўразілася, калі прыйшоў адказ на чыстай беларускай мове. Данат напісаў, што не ўяўляе, як гэта будзе адбывацца, але яму гэта цікава, і ён будзе мне адказваць па-беларуску, бо любіць мову. Я стала адпраўляць яму тэксты дыктантаў з прапушчанымі знакамі прыпынку і літарамі на месцы арфаграм. Спачатку толькі па беларускай мове, а потым і па рускай. Па беларускай мове ў кожным лісце прыкладала нейкую тэарэтычную частку, разбор пэўнага правіла і практыкаванне па гэтай тэме. Калі атрымлівала ад яго адказ, правярала заданні і тлумачыла, дзе былі памылкі і чаму трэба пісаць інакш. Памылкі ён дапускаў, але агульны ўзровень ведаў вельмі добры, бачна было, што ён стараўся зрабіць усё правільна. Атрымалася толькі пяць такіх урокаў правесці, таму не ведаю, наколькі яму гэта дапамагло здаць іспыты. Проста ён сам вельмі старанны і разумны», — распавяла Святлана, яна насамрэч працуе не настаўніцай, а рэдактаркай у газеце і піша вершы для дзяцей.

Справа Даната Скакуна расследавалася каля года. Суд цягнуўся два месяцы. Затым хлопец абскарджваў прысуд у Вярхоўным судзе. Увесь гэты час (амаль паўтара года) ён спрабаваў здаць экзамены за дзявяты клас, бо трагедыя ў гімназіі №74 здарылася акурат напярэдадні іспытаў. Адміністрацыя ў СІЗА на Валадарскага, дзе ўвесь гэты час знаходзіўся Данат, была не супраць пайсці хлопцу насустрач, але справа ўпіралася ў кіраўніцтва гімназіі, якое мусіла арганізаваць здачу экзаменаў у следчым ізалятары. Там упарта адмаўлялі хлопцу: маўляў, «правядзенне выпускных экзаменаў па-за ўстановай адукацыі не прадугледжанае заканадаўствам». Звароты бацькоў у Мінадукацыі і Дэпартамент выканання пакаранняў у той час не давалі плёну.

20 лістапада маці Даната мела чатырохгадзіннае спатканне з Данатам у Бабруйскай калоніі. Кажа, што Данат добра адгукаецца і пра ўмовы ўтрымання, і пра школьных настаўнікаў, і пра хлопцаў, з якімі вучыцца і працуе.

«Але ў яго заўсёды ўсё ў парадку: «Мама, тата, не хвалюйцеся». Кажа, што ежа добрая, адпачываюць яны добра. Але амаль увесь дзень занятыя. У іх альбо ў першую змену школа, у другую — праца, альбо наадварот. Кажа, што гэта не цяжкая праца. Сын пазітыўна настроены».

У калоніі Данат працягвае чытаць кнігі: бярэ іх у бібліятэцы ці абменьваецца з іншымі хлопцамі. Цяпер чытае «Пад купалам» Стывена Кінга.

На сайце petitions.by збіраюць подпісы ў абарону Даната Скакуна. Абаронцы хлопца патрабуюць стварыць міжведамасную камісію для комплекснай праверкі працы ўсіх датычных да вынясення абвінавачага прысуду Данату Скакуну.

«Я вельмі спадзяюся, што гэта будзе мець значэнне. Што на пытанні, якія засталіся без адказу СК, нехта мусіць адказаць. Мусіць быць канец у гэтага кашмару. Будзем спадзявацца, што петыцыя дасць плён», — кажа Аліна Зенкевіч.

Згодна з афіцыйнай версіяй, 23 мая 2016 года вучань сталічнай гімназіі №74 Данат Скакун зайшоў у клас рускай мовы і літаратуры і напаў з нажом на настаўніцу рускай мовы Валянціну Губарэвіч. Зброя не была знойдзеная. Вынікі следства многія лічаць непераканаўчымі, а прысуд — несправядлівым.

**Маша Калеснікава, euroradio.fm**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Усім дзякуй, усе свабодныя!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларусы жывуць і плануюць выжываць надалей зусім не дзякуючы розным «прарыўным дакументам» улады. А, хутчэй, насуперак ім.**

Ужо шмат казалася пра «самы сенсацыйны» дэкрэт Лукашэнкі пра развіццё прадпрымальніцтва. Зараз высвятляецца, што ён прыняты ў фармаце «як заўсёды», і яго існаванне — факт, хутчэй, трывожны, чым абнадзейваючы. Прынамсі, менавіта так яго расцэньваюць эксперты-практыкі. А хто можа быць лепшым экспертам у гэтай галіне, як не той, які па гэтых дакументах працуе?

У Мінску на тыдні прайшоў форум прадпрымальнікаў, якія канстатавалі, што новы дакумент, з-за якога было столькі шораху, ніякіх істотных палёгкаў для іх не дае. Так, скарачаюцца некаторыя віды дзейнасці, на якія былі патрэбныя дазволы. Скарачаюцца праверкі санстанцыяў і пажарных. Але гэта не тое, што трэба дробнаму бізнесу. Фундаментальных праблемаў — такіх, як дзеянне ўказу №222 пра дакументы, што пацвярджаюць куплю тавару, і пра абмежаванне наёму працоўнай сілы, адабранне і канфіскацыю тавараў падаткавікамі, — гэты дэкрэт не вырашае.

Між тым, на форуме былі агучаныя трывожныя лічбы, якія сапраўды паказваюць, што ІП як клас могуць знікнуць. Не ў выніку нейкіх захадаў улады, а з-за натуральнай смерці. 65% ІП сёння старэйшыя за 45 гадоў. То бок, «новай крыві» ў гэты сектар эканомікі не ўліваецца.

Галоўную пагрозу сваёй справе амаль 60% прадпрымальнікаў бачаць у дзеяннях кіраўніка краіны і ўраду. Шматлікія ўказы і дэкрэты, на думку прадпрымальнікаў, ускладняюць ім працу.

Але замест таго, каб прыслухацца да людзей, чыноўнікі ў чарговы раз паспрабавалі з іх нешта «састрыгчы». Паказальны ў гэтым імкненні выступ на мерапрыемстве дарадчыцы кіраўніка Савета па развіцці прадпрымальніцтва Таццяны Быкавай. Яна сказала, што «дзяржава і грамадства павінны выказаць падзяку людзям, якія так доўга ў гэтым бізнесе. Гэта сапраўды цэлая эпоха — 20 гадоў». Але потым заявіла: «Эпоха гэтая зацягнулася». І прывяла ў прыклад Польшчу, якая «пайшла далёка наперад». «Вы павінны вырашыць, што зрабіць, каб не застыць у 90-х гадах» — адзначыла чыноўніца.

Пры гэтым яна паведаміла, што паводле статыстыкі, цяпер ІП дае 2,3% у бюджэт, але «калі вы пакажаце, што можаце даваць 2,9% ці 3%, гэта будзе фактарам, каб дзяржава пайшла на саступкі».

Падаецца, што спадарыня Быкава не разумее прымітыўнай рэчы: каб абскубсці ягня, яго трэба спачатку выгадаваць. Па-першае, 2,3% у бюджэт — гэта немалая сума: гэта ў два разы больш, чым краіна выдаткоўвае, напрыклад, на войска! Па-другое, ІП могуць даваць і 3%, і 5%, і нават 10% у бюджэт — калі іх не будуць душыць. І, па-трэцяе, калі ўжо параўноўваць з Польшчай — дык давайце нашым ІП нададзім такія ж умовы вядзення бізнесу, як палякам. І, ведаючы нашых людзей, невядома, хто каго ў прыклад будзе ставіць праз пяць гадоў.

На тыдні Лукашэнка правёў чарговую нараду па высокіх тэхналогіях. З гэтай нагоды вядомы ІТ-бізнесмен Віктар Пракапеня на сваёй старонцы ў Фэйсбуку напісаў: «Дарагія сябры, ІТ-шнікі! Вынікі сённяшняй нарады

> **2,3%**
>
> **у бюджэт краіны даюць індывідуальныя прадпрымальнікі. Ці мала гэта? Гэта немалая сума: напрыклад, яна ў два разы больш, чым краіна выдаткоўвае на войска**

па лічбавай эканоміцы: дэкрэт будзе падпісаны да канца гэтага года — суперліберальны варыянт з падтрымкай усіх спосабаў прымянення блокчэйна, 100% адсутнасці бюракратыі, любых бізнес-мадэляў, у тым ліку прадуктовых, поўнай волі ў найманні замежных спецыялістаў, падтрымкай адукацыі, інстытутаў англійскага права і гэтак далей». Баюся, што ў выніку Пракапеня можа атрымаць зусім не тое, што яму абяцалі, — як гэта здарылася з прадпрымальнікамі.

І такая верагоднасць даволі вялікая. Бо пра тое, што ўказ цалкам узгоднены і Лукашэнку засталося толькі паставіць у ім аўтограф, на мінулым тыдні паведамляў Саўмін. Як бы там ні было, аўтограф не пастаўлены — і пакуль незразумела, чаму.

Даволі вяла ў нас ідзе і палітычная кампанія. Няшмат хто чакае сенсацыяў ад выбараў у мясцовыя саветы, аднак і тут мы адкатваемся назад. Гэтым разам кандыдат у дэпутаты мясцовых саветаў зможа выступаць на радыё не больш за 3 хвіліны — раней было 5 хвілін. Больш за тое, выступы не будуць трансляваца ў жывым эфіры, толькі ў запісе. Зразумела, запіс можна адцэнзураваць як заўгодна.

Але не ўсё вымяраецца дэкрэтамі і ўказамі. Я часцяком думаю: што б мы рабілі без нашага Аляксандра Рыгоравіча? Пра што б мы пісалі? Вось і на гэтым тыдні Лукашэнка выдаў сенсацыю. На ІІ Беларускім навуковым з'ездзе ў Мінску ён, як піша «Інтэрфакс», адказаў на папрокі ў тым, што краіна праводзіць «мяккую беларусізацыю». «Папракаюць у мяккай беларусізацыі. Слухайце, мне што, тут германізацыю зладзіць?» — запытаўся Лукашэнка.

Пры гэтым, звярнуў увагу кіраўнік дзяржавы, у гэтым ён не папракае ні народ Расіі, ні яго кіраўніцтва. «Гэта асобныя дзеячы і заказуха, як нядаўна мне сказаў Пуцін тут у Мінску», — адзначыў ён.

Шчыра кажучы, Лукашэнка вельмі ганарыцца тым, што ён у 1990-х «зняў рускіх з валізак». І ў тым, што ў краіне адбываецца «мяккая беларусізацыя», ніякай заслугі ўладаў няма. Гэта робіцца, хутчэй, насуперак ёй. Каб у нас была ўладная беларусізацыя, у нас бы, прынамсі, даўным-даўно ў Мінску з'явілася вуліца Васіля Быкава.

«Мяккую беларусізацыю» забяспечваюць пакуль выключна энтузіясты з грамадскіх арганізацый і ініцыятыў. Усё больш з'яўляецца беларускага бізнесу, беларускай рэкламы... І не таму, што гэта «беларусізацыя», — таму, што такі бізнес больш заўважны, а беларускамоўная рэклама больш прыцягвае ўвагу, а значыць, лепш працуе. Таму закідаць пра «мяккую беларусізацыю» Лукашэнку — гэта блытаць цёплае з мяккім.

Вось, напрыклад, у Мінску на доме па вуліцы Мележа, дзе жыў славуты наш суайчыннік, народны паэт Рыгор Барадулін, з'явіцца памятная дошка. Яе плануецца адкрыць яшчэ да Каляды. Але гэта адбудзецца не дзякуючы ўладам, а дзякуючы актывісту Глебу Лабадзенку. Менавіта ён ініцыяваў збор сродкаў на праект, менавіта ён займаўся неабходнымі ўзгадненнямі. І ў выніку ў Фэйсбуку напісаў, што «дошка атрымала ўсе неабходныя ўзгадненні і ўжо адліваецца».

А 26 лютага ў сталічным Доме культуры ветэранаў адбудзецца святкаванне дня нараджэння Барадуліна і прымеркаваная да гэтай нагоды прэзентацыя альбома «Песні матчыны з Вушаччыны». На кружэлку, якую склалі народныя песні з радзімы дзядзькі Рыгора ў выкананні сучасных артыстаў, сабралі грошы праз краўдфандынг.

І ні дзяржава, ні Лукашэнка ў гэтай беларусізацыі — ні пры чым.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Цікавы казус здарыўся з палітыкам і экс-кандыдатам у прэзідэнты на памежным пераходзе Лоша паміж Беларуссю і Літвой.**

Палітык са сваёй жонкай Марынай Адамовіч скіроўваўся ў Літву на ўласным аўтамабілі. «Пасля праверкі пашпартоў памежнікі затрымалі Мікалая Статкевіча, апранулі на яго кайданкі, машыну, якая належыць мне, адагналі на спецстаянку, а нас з Мікалаем змясцілі ў нейкае дапаможнае памяшканне, дзе нас ахоўвае цэлы лейтэнант. Прычын затрымання не тлумачаць, мабыць, чакаюць указанняў высокага начальства з Мінска. Свае прозвішчы памежнікі адмовіліся называць», — распавяла Марына Адамовіч.

Але, бачна, «нешта пайшло не так». Прыблізна праз гадзіну пасля затрымання палітыка вызвалілі. «Знялі кайданкі, вызвалілі машыну, адпусцілі. Без тлумачэнняў і прабачэнняў», — напісала Марына Адамовіч у Фэйсбуку.

Зараз, пэўна, Статкевіч ламае галаву: а што гэта было, і чаму яго як злачынцу гадзіну трымалі ў кайданках? Ці гэта быў такі жарт беларускіх памежнікаў?

## Ірына Халіп



**Беларуская журналістка ўзнагароджаная ордэнам імя Андрэя Сахарава «За мужнасць». Такое рашэнне прыняло журы міжнароднай прэміі «За журналістыку як учынак».**

Апроч Халіп, гэты ордэн атрымалі журналісты з Расіі, Украіны, Казахстана, Узбекістана і Азербайджана, якія зазналі пераслед з боку ўладаў за іх грамадзянскую пазіцыю. У ліку ўзнагароджаных — аглядальніцы расійскай «Новой газеты» Вольга Раманава і Юлія Латыніна, Алег Кашын, Аляксей Кунгураў, Алег Сянцоў, Барыс Стамахін, Вадзім Цюменцаў, Аляксандр Сакалоў, Дар'я Палюдава ды іншыя.

Прысуджаная і пасмяротна гэтая ўзнагарода пецярым забітым супрацоўнікам «Новай газеты» — Ганне Палiткоўскай, Юрыю Шчакачыхіну, Ігару Домнікаву, Наталлі Эстэміравай, Анастасіі Бабуравай.

Прэмія імя Андрэя Сахарава «За журналістыку як учынак» прысуджаецца журналістам за матэрыялы, якія становяцца працягам жыццёвай пазіцыі аўтараў, паслядоўнага выканання працы на высокім прафесійным узроўні і абароны тых каштоўнасцяў, якія бараніў Андрэй Сахараў.

Заснавальнік прэміі — праваабаронца і прадпрымальнік Пітэр Вінс. Нязменны старшыня журы — Аляксей Сіманаў. У журы ўваходзяць вядомыя журналісты, праваабаронцы, сацыёлагі Расіі, шэраг замежных журналістаў (Іспанія, Аўстрыя, ЗША).

## Ігар Комлік



**Следчы камітэт працягнуў расследаванне справы ў дачыненні да лідара прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Генадзя Фядыніча і галоўнага бухгалтара арганізацыі Ігара Комліка.**

Па словах Ігара Комліка, аб працягу расследавання яму паведаміў следчы падчас чарговага допыту, аднак пісьмовай пастановы пра працяг расследавання не паказаў.

«Справа падоўжаная да 2 лютага, таму што пастаўлены загад нешта «знайсці». І таму следчыя як бы выконваюць сваю «працу». Але можна казаць, што пытанні следчага не заўсёды маюць дачыненне да таго, што было звязана з нейкімі дзеяннямі, якія адбыліся ў 2011 годзе. Таму ўзнікаюць сумневы, наколькі гэтая крымінальная справа, яе трэба, хутчэй, пераводзіць у палітычную плоскасць», — распавёў Ігар Комлік журналістам.

Паводле словаў Ігара Комліка, напрыклад, следчыя патрабавалі ад яго і Генадзя Фядыніча прадставіць спіс чальцоў прафсаюза. Гэта не мае ніякага дачынення да абвінавачванняў ва «ўхіленні ад выплаты падаткаў у 2011 годзе». Ведаючы, што інфармацыя пра актывістаў прафсаюза можа прывесці да ціску і нават іх звальненняў, кіраўнікі РЭПа адмовіліся гэта зрабіць. «Па-ранейшаму мы адмаўляем сваю віну і стала заяўляем пра гэта», — падкрэсліў Ігар Комлік.

15 снежня 2017 | № 47 (561) Новы час



Фота Паўла Аксіновіча

**Беларуская сацыяльная мадэль, у свой час падтрыманая народам, прывяла да відавочнага крызісу. Атрымалася, што лідар, няхай сабе і абапіраючыся на большасць насельніцтва, прывёў краіну ў гістарычны тупік**

# Справа не ў народзе, а ва ўладзе

Валер КАРБАЛЕВІЧ

**Колькі часу існуе цяперашні палітычны рэжым, столькі ў медыях і навуковых артыкулах, як у нашай краіне, так і ў замежжы, выказваецца думка, што праблема Беларусі — не ў Аляксандры Лукашэнку, а ў народзе.**

Маўляў, беларускае грамадства адрынае дэмакратычныя каштоўнасці, якія грунтуюцца на рынкавай эканоміцы і правах чалавека, а трымаецца аўтарытарных, патэрналісцкіх уяўленняў, народу патрэбна не свабода, а «моцная рука». На такія настроі электарату і абапіраецца Аляксандр Лукашэнка ў сваёй палітыцы.

Толькі некалькі найбольш характэрных прыкладаў. Прафесар Рэдфардскага ўніверсітэта (ЗША) Грыгорый Ёфэ ў 2014 годзе апублікаваў кнігу «Пераацэньваючы Лукашэнку: Беларусь у культурным і геапалітычным кантэксце», у якой вельмі станоўча ацэньвае дзейнасць беларускага лідара. Галоўны аргумент, які вылучае Ёфэ, ствараючы станоўчы вобраз кіраўніка Беларусі, палягае ў тым, што той адлюстроўвае памкненні, настроі, жаданні, думкі свайго грамадства. Маўляў, іншай палітыкі ён і не мог праводзіць, і калі ў нечым і памыляецца, дык разам з народам.

Падобную думку рэгулярна выказвае ў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ доктар філасофскіх навук Вячаслаў Оргіш. Спасылаючыся на даследаванні НІСЭПД, ён сцвярджае, што «чалавек савецкі» па-ранейшаму пераважае ў беларускім грамадстве, служыць электаральнай апорай аўтарытарызму.

Былы памочнік Аляксандра Лукашэнкі, а цяпер амбасадар Беларусі ў Кітаі Кірыл Руды ў нядаўнім артыкуле піша: «Нам трэба раскадаваць грамадства. У нас ёсць культурныя бар'еры, якія тармозяць эканоміку: спажывецкае стаўленне да інвестараў, да дзяржавы і адзін да аднаго, прыярытэт роўнасці над багаццем, арыентацыя на савецкае мінулае, гігантаманія, матывацыя пагрозамі (заклік да інстынктаў, а не да здаровага сэнсу), ухіленне ад адказнасці і балючых рашэнняў».

Безумоўна, нельга адмаўляць прыхільнасць значнай часткі беларусаў да недэмакратычных, патэрналісцкіх каштоўнасцяў. Сапраўды, існуюць пэўныя культурныя бар'еры на шляху пераходу да рынку і дэмакратыі. І «праект Лукашэнкі» — гэта кансерватыўная рэакцыя беларускага грамадства на выклікі мадэрнізацыі і глабалізацыі, бунт супраць дэмакратычных каштоўнасцяў. Можна пагадзіцца, што ў рамках гэтай сацыяльнай мадэлі значная частка насельніцтва адчувала, дый цяпер адчувае, псіхалагічны камфорт.

Тым не менш, праблема больш складаная.

Па-першае, спасылка на народ — не ёсць гістарычным апраўданнем. Мы ведаем шмат прыкладаў, калі дыктары, якія прыводзілі свае народы да трагедыі, былі дэмакратычна выбраныя і шмат гадоў мелі шырокую падтрымку насельніцтва, адлюстроўвалі яго настроі.

Калі казаць пра Беларусь, то беларуская сацыяльная мадэль, у свой час падтрыманая народам, прывяла да відавочнага крызісу. Атрымалася, што лідар, няхай сабе і абапіраючыся на большасць насельніцтва, прывёў краіну ў гістарычны тупік.

Лідар нацыі, асабліва той, які кіруе краінай больш за 20 гадоў, і ўжо адным гэтым фактам прэтэндуючы на адметнае месца ў гісторыі сваёй краіны, павінен мець больш шырокі гарызонт, перспектыўнае бачанне будучыні соцыуму. Ён мусіць быць хоць бы ледзь-ледзь разумнейшы за сярэднестатыстычнага грамадзяніна, умець вызначаць дамінуючую грамадскую тэндэнцыю, пралічваць сітуацыю хаця б на адзін ход наперад, бачыць карэнныя, доўгатэрміновыя, а не толькі імгненныя інтарэсы дзяржавы і грамадства. Калі палітык па прастаце душэўнай літаральна паўтарае тое, што думае шараговы абывацель, падкрэсліваючы пры гэтым, што ён кажа ад імя народа, — дык гора таму народу.




Фота Юрыя Дзядзінкіна

У апошнія дзесяцігоддзі рынак і дэмакратыя паспяхова зацвердзіліся ў шмат якіх рэгіёнах свету: у Лацінскай Амерыцы, Азіі. Вельмі паказальнай з'яўляецца гісторыя развіцця дзвюх Карэй. Паўднёвая Карэя — устойлівая і квітнеючая краіна з рынкавай эканомікай і дэмакратыяй. Паўночная Карэя — убогая, карыкатурная, але праз гэта не менш жудасная дыктатура, дзе людзі паміраюць з голаду. А гэта ж адзін народ, з адны менталітэтам.

Гэты прыклад падштурхоўвае да простай высновы: з адным і тым жа народам можна рэалізаваць розныя мадэлі развіцця. І дыктатарскі рэжым валодае вялікімі магчымасцямі зацвердзіць той лад, які выгадны яму.

І, дарэчы, дзяржаўны патэрналізм любяць не толькі ў Беларусі, але, напрыклад, у дэмакратычнай Еўропе. Там сёння так шмат сацыялізму, то бок элементаў сацыяльнай дзяржавы, што гэта ўжо пачало перашкаджаць развіццю эканомікі. Але любыя спробы ўрадаў па лібералізацыі эканамічнага жыцця натыкаюцца на пратэсты насельніцтва.

Напрыклад, у Францыі дасюль працоўнае заканадаўства фактычна забараняла звальненне наёмнага работніка без яго згоды. Гэта моцна перашкаджала развіццю бізнесу. Розныя ўрады некалькі разоў спрабавалі лібералізаваць працоўнае заканадаўства, але прафсаюзы выводзілі на вуліцы з пратэстам сотні тысяч людзей — і кожны раз урад адступаў. Толькі папярэдні прэзідэнт Франсуа Аланд праявіў настойлівасць і, нягледзячы на пратэсты, страйкі нават падчас мінулагодняга Чэмпіянату Еўропы па футболе, змог давесці справу да канца. Праўда, гэта каштавала Аланду пасады прэзідэнта, бо яго рэйтынг упаў настолькі нізка, што ён вырашыў не балатавацца на новы тэрмін.

То бок, халяву любяць усе. Таму Беларусь — не такі ўжо вялікі эксклюзіў.

Па-другое, беларускае грамадства вельмі неаднароднае, глыбока расколатае. Сацыялагічныя апытанні паказваюць, што каля траціны беларусаў прытрымліваюцца ўстойлівых дэмакратычных каштоўнасцяў. Але Лукашэнка абапіраецца не на гэту частку электарату. Наадварот, якраз з такімі сацыяльнымі слаямі ўлады ўпарта змагаюцца, іх ізалююць, заганяюць у гета. Існы рэжым абапіраецца на людзей з недэмакратычнымі каштоўнасцямі. Гэта яго свядомы палітычны выбар. Важным элементам дзяржаўнай палітыкі з'яўляецца штучная кансервацыя і архаізацыя грамадства, апеляцыя да патрыярхальнай свядомасці, апора на пенсіянераў, людзей з невысокай адукацыяй, нізкай кваліфікацыяй, якія пражываюць у вёсцы, маленькіх гарадах. У гэтым кансерватыўнай мадэлі галоўнай каштоўнасцю з'яўляецца стабільнасць, а не развіццё.

Па-трэцяе, Лукашэнка выконвае не проста функцыю люстэрка, рупара, ён не адно толькі механічна адлюстроўвае погляды свайго электарату. Прэзідэнт выступае своеасаблівым рэтранслятарам, які адпраўляе назад свайму электарату недэмакратычныя каштоўнасці ва ўзмоцненым выглядзе. А дзяржаўныя СМІ, у першую чаргу тэлебачанне, даводзяць гэты працэс да лагічнага канца.

Па-чацвёртае, узнікае натуральнае пытанне: а ці ёсць цяпер гэтая пралукашэнкаўская, антырынкавая, антыдэмакратычная большасць? Вызначыць гэта можна толькі ва ўмовах дэмакратыі, свабоднай канкурэнцыі ідэй і палітычных сіл, дэмакратычных выбараў. Гэтага ў Беларусі даўно няма.

Грамадскія настроі вельмі пераменлівыя. Чамусьці здаецца, што не пра якую большасць цяпер казаць не даводзіцца. Акцыі «недармаедаў» у лютым-сакавіку па ўсёй краіне выявілі рэальны крызіс даверу грамадства да ўлады. Дазволю сабе сцвярджаць, што рэжым сёння абапіраецца на меншасць насельніцтва. А тое, што народ не гатовы да рэвалюцыі, яшчэ не сведчыць пра яго падтрымку кіруючага рэжыму.

Дарэчы, А. Лукашэнка выступаючы перад дэпутатамі Нацыянальнага сходу 7 кастрычніка 2016 года, прызнаў, што за эканамічныя рэформы выступае і ўрад, і народ («Блукае гэтае пытанне ў розумах людзей»). Атрымліваецца, што супраць рэформаў толькі адзін А. Лукашэнка.

І затым, нават дамінаванне патэрналісцкіх каштоўнасцяў зусім не азначае, што беларусы не хочуць дэмакратыі. Правядзіце сацыялагічнае даследаванне і спытаеце людзей, ці жадаюць яны, каб выбары былі свабоднымі і дэмакратычнымі, каб яны мелі магчымасць выбіраць прэзідэнта і дэпутатаў, каб іх галасы лічылі? Як вы думаеце, ці знойдзецца шмат дзівакоў, якія скажуць: не, мы хочам, каб выбары фальсіфікаваліся? Калі насельніцтва сапраўды хоча дыктатуры, дык чаму ўлады так баяцца свабодных выбараў?

Таму, падводзячы вынікі, трэба казаць, што перашкодай на шляху дэмакратычнай трансфармацыі Беларусі з'яўляецца не столькі народ, колькі існы палітычны рэжым. Маніпулюючы грамадскімі настроямі, ён узурпаваў права гаварыць ад імя народа, а насамрэч больш заклапочаны захаваннем уласнай улады. Справа не столькі ў народзе, колькі ў тых, хто імі кіруе. Пры іншай уладзе, але з гэтым самым насельніцтвам, Беларусь магла б стаць рынкавай, дэмакратычнай і еўрапейскай краінай.

# Артур Вакараў: «Я маю густ і хачу мецць свабоду выбару»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Сёння «Буржуазныя каштоўнасці» — адзіная крама ў Мінску, якая мэтава займаецца вінтажнай мэбляй ды прывозіць свой тавар з Заходняй Еўропы. Ці выгадна гэта ў Беларусі? Чаму ў Галандыі — танней? Чаму «скандынаўскі дызайн» 1960-х каштуе больш за неабарока 100-гадовай даўніны?..**



На гэтыя ды іншыя пытанні мы папрасілі адказаць Артура Вакарава, творчага дырэктара крамы, адначасна — стваральніка вядомай дызайн-студыі «Адліга». Сама крама — гэта двух'ярусная памяшканне, якое ўяўляе сабой «мэблевы лабірынт», дзе можна напаткаць практычна ўсё: ад утульных мяккіх канапаў з разнымі падлакотнікамі да ружэйнага кабінету з мудрагелістымі вензелямі па баках.

Крама існуе ўжо амаль год, ад пачатку 2017-га, таму можна падвесці пэўныя вынікі. Дамо слова самому Артуру Вакараву.

### «Блышыныя рынкі — гэта «fun», а нашы партнёры — аптавікі»

*— Ці мела гісторыя з крамай нейкую перадгісторыю?*

— Ніякай папярэдняй крамы не было, але сама тэма неяк круцілася ў паветры. Дызайн-студыя «Адліга» — маё месца працы ўжо на працягу 20 гадоў, а гэтая авантура — фактычна другая праца. Знайшоўся інвестар, адкрыты да новых справаў, які таксама любіць вінтажную тэму. Усё гэта абдумвалася і перавярвалася на працягу 5 гадоў — і вось стрэліла.

*— Вы асабіста калекцыянер? Ці абстаўляеце свой дом вінтажнай мэбляй?*

— Калекцыянер — гэта вельмі дасведчаная асоба, прынамсі ў нейкай вузкай галіне. У адным стылі мэблі, у нейкіх манетках, марках. Я не калекцыянер, наўпрост маю густ і хачу мець свабоду выбару. У нас чалавек, на жаль, не мае выбару — ён можа любіць ар-дэко, але вымушаны набываць «Пінскдрэў». Таму што самому прывезці з Захаду — гэта дужа складана і непрыемна, дорага.

Для фізічных асобаў — гэта размытнёўка, 4 еўра за кілаграм, у выніку атрымліваецца, што яно столькі не каштуе. Напрыклад, буфет важыць 100 кілаграмаў, каштуе на Захадзе 100 еўра, а заплаціць за яго трэба будзе на мытні 400… Калі мы ладзілі свой першы рэйд, наўпрост аб'ехалі сяброў за мяжой на мікрааўтобусе, паспрабавалі прывезці як фізічныя асобы. Мы тады шмат заплацілі, нас прымусілі ўсё перавяжваць, усю ноч вошкаліся, вельмі стаміліся…

*— Як гэта ўсё выглядае на Захадзе? Нейкія блышыныя рынкі?*

— Блышыныя рынкі — гэта «fun», але гэта не прадуктыўна ў выпадку нашага бізнесу. У нас гэта ўсё возіцца вялікімі фурамі. Усё, што вы бачыце ў краме, фактычна ўлезе ў адну фуру. А па блышыных рынках можна гойсаць і нарыць там сабе «вінілаў» — гэта зусім іншы аб'ём і фармат.

У Галандыі мы маем партнёра — аптовую кампанію, якая па ўсім свеце прадае свой тавар не фізічным асобам, а ўладальнікам крамаў. Іх плошча — 4000 квадратных метраў — гэта на 50 фур. Прыязджаеш і выбіраеш сабе калекцыю. А можна збіраць самому, па крамках, па людзях. Але гэта спецыфічная праца: трэба знайсці склад, наймаць грузчыкаў, упакоўшчыкаў, паперы рабіць… Пры гэтым, так танней, бо аптавікі, скупляючы ў людзей, накручваюць кошт. А паколькі беларусы бедныя, мы ўвесь час спрабуем шукаць шляхі, каб сабекошт быў ніжэйшым.

> **Я не калекцыянер, я наўпрост маю густ і хачу мецць свабоду выбару. У нас чалавек, на жаль, не мае выбару — ён можа любіць ар-дэко, але вымушаны набываць «Пінскдрэў».**

### «Не фактар якасці, а фактар выбару»

*— Ці можа быць такі кейс, што старая якасная рэч каштуе там танней, чым у Беларусі новая з «Пінскдрэва»?*

— Не хацеў бы казаць, што «Пінскдрэў» робіць няякасныя рэчы: новыя топавыя лінейкі ў іх вельмі файныя. Наўпрост, такое ва ўсіх, а камусьці хочацца іншага, а наша фабрыка ніяк не можа выдаць лінейкі прадукцыі па 50 стылях, якія існавалі ў Еўропе за апошнія 200 гадоў. Таму гэта не фактар якасці, а фактар наяўнасці выбару. У «Пінскдрэва» кошты не вышэйшыя, чым кошты на новую мэблю за мяжой. Але ўжываная мэбля за мяжой каштуе танна.

Абагульняць нельга. Ёсць «скандынаўскі дызайн» — ён модны і даражэзны, усе ад яго «пруцца», ніхто не хоча новы, а хочуць 1960–1980-я — такі трэнд зараз. Калі набываць такую мэблю ў крамах за мяжой — гэта жудасныя кошты, тысячы еўра за крэселка, дзясяткі тысяч — за канапу і г.д. А ёсць «папса» — простая якасная вінтажная мэбля. У нейкай дацкай вёсачцы яе можна знайсці вельмі танна — гэтым мы зараз і займаемся. Апошнія дзве фуры мы так і збіралі, я выбіраў кожную рэч асобна, наездзіўшы 2 000 кіламетраў па Даніі.

*— Цікавая рэч — у трэндзе «скандынаўскі дызайн», а не ампір ці неабарока, масіўныя драўляныя шафы і г.д. — тое, з чым звычайна асацыюецца антыкварная мэбля… Як так?*

— У ва ўсім свеце — ужо не асацыюецца. А на Беларусі, пэўна, яшчэ так. Бо ў нас гэтага няма наўпрост — такіх масіўных разных шафаў, а людзям хочацца, зноў жа, быць не як усе. А там — на Захадзе — шмат так званага неарэнесансу — папулярных рэплікаў са старажытнасці, зробленых пасля Другой сусветнай вайны: недзе ў 1950–1960-я гады яны аднавілі вытворчасць пад барока і ракако. Шмат нарабілі — шмат засталося, таму нікому асабліва тое не цікава. Адначасна, засталася пэўная цікавасць і ў ЗША, бо жывая яшчэ ўява пра класічны амерыканскі дамок, дзе ўнутры ўсё ў віктарыянскім стылі. А Еўропа, Японія, Сінгапур, Тайвань — там мода на «скандынаўскі стыль». У кожным вялікім горадзе будзе 5–10 крамаў з жудасна дарагой і прыгожай скандынаўскай мэбляй.

### «Далёка не ў кожным музеі…»

*— Ці лічыце вы, што прывіваеце беларусам густ, завозячы такую мэблю?*

— Не ведаю наконт прывівання, напэўна, у тых, хто сюды прыходзіць, быў нейкі адкладзены попыт ці нават голад на такія рэчы: хацелася, але не было змогі. У нас ёсць колькі буцікаў, якія завозяць новую італьянскую ці скандынаўскую мэблю, але, зноў жа, там вельмі дорага ўсё. Я, як графічны дызайнер, дазволіць сабе такога не магу. Таму я проста даю людзям магчымасць.

Канешне, мы троху адукацыі робім. Прыйшлі неяк дзве дзяўчыны, пры грашах, бачна, і закінулі нам: «Скандынаўскага ў вас няма!..» А тады не было сапраўды. Я яшчэ падумаў: «Трэба, трэба…» І тут яны спыняюцца перад ампірным сервантам і кажуць адна адной: «Вось, ёсць жа!» А гэта ж максімальна далёка ад скандынаўскага… Таму мінімальна адукоўваць людзей трэба. Да нас можна і наўпрост прыйсці — паглядзець, што такое ар-дэко, ар-нуво і г.д. А дзе яшчэ такое пагладзіш? Нават у музеі ж далёка не ў кожным.

*— Цікава, а былі замовы акурат ад музеяў? Для аднаўлення сядзібаў ці мемарыяльных дамоў-кватэраў якіх?..*

— Былі нейкія сядзібы, але ці гэта музеі ў чыстым выглядзе? Ці гэта людзі наўпрост аднавілі і жывуць?.. Не ведаю. Але з дзяржаўных, каб хто звяртаўся і рэальна набываў — не прыгадаю. Зрэшты, магчыма, я і прапусціў чаго, бо шмат часу праводжу за мяжой.

### «Увесь час вазіць з Галандыі — сумна»

*— Ці выгадна ў Беларусі ў прынцыпе займацца вінтажнымі рэчамі і антыкварыятам? Ці ёсць попыт наогул?*

— Попыт дакладна ёсць. А так — бізнес як бізнес, нешта зарабляем, арэнду і падаткі плацім. Ёсць фарматы менавіта антыкварных крамаў — там антыкварыят даражэзны. А ў нас — эклектыка. У бліжэйшых планах — паехаць у Італію і прывезці адтуль мэблю 1950–1960-х, людзі нас там ужо чакаюць. Нам гэта наўпрост цікава, не хочацца сябе і кліентаў абмяжоўваць: маглі б увесь час вазіць з Галандыі, але гэта сумна.

*— У Мінску вы адны займаецеся вінтажнай мэбляй?*

— Менавіта вінтажнай — так. Не чуў, каб і ў 1990-я гады нешта падобнае было. Магчыма, ёсць нейкія прыватныя аматары, якія самі бусікамі нешта возяць, каб пасля прадаваць праз інтэрнэт ці свайму колу кліентаў. Але ў іх будзе збольшага менавіта антыкварыят: яны гэта з цяжкасцю вязуць, пасля прадаюць вельмі доўга і дорага.

### «Глянуць кожную драпінку…»

*— Не збіраецеся пашырацца? Наогул, што яшчэ ў планах?*

— У нашых планах пашырэнне плошчаў за кошт таго, што вынесем рэстаўрацыйную майстэрню ды фотастудыю. Тады можна будзе зрабіць тут значна прыгажэй, асобныя зоны для розных стыляў мэблі, магчыма, падказкі з гатовымі рашэннямі інтэр'ераў — камплекты ў адным стылі. Асобна — крама-склад, гэта не так прыгожа, але там будзе яшчэ больш усяго, і ўсё будзе прадавацца праз інтэрнэт.

*— Больш прадаецца ўжывую ці віртуальна?*

— Амаль усе кліенты прыязджаюць. Замовы праз інтэрнэт ёсць, але людзі збольшага бранірують нешта, каб потым прыехаць, пабачыць, пасядзець. А як інакш можа быць з ужыванай вінтажнай мэбляй? Трэба глянуць кожную драпінку, адчуць дух!



Фота Аляксандры Сяргеевіч

# Словы і вера Алеся Пашкевіча

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Фразу пра тое, што «на пачатку было слова», ведаюць усе, а для пісьменнікаў яе ўвогуле можна лічыць ледзь не творчым дэвізам. Жыццёвы шлях Алеся Пашкевіча красамоўна пацвярджае, што за слова (калі яно сапраўды шчырае) трэба змагацца. Але давайце лепш пачытаем, што Алесь расказвае пра сябе сам.**




**Шыльду пасля выгнання з Дома літаратара даводзілася перахоўваць. 2007 год.**
Фота Г. Лабадзенкі

### Першыя словы

«Дзяцінства, яго непаўторнасць і незваротнасць бачацца на жыццёвай адлегласці. Ад самага прыйсця... Калі я зазбіраўся з'явіцца на свет, мама выбірала бульбу. На агародзе, пад высокай чырвонай грушай...

Пахла спеласцю, сонцам, тлустай зямлёй, жоўтымі вяргінямі, макрацом і чаканнем.

Прыперчваў усё тое церпкаваты смак падсохлага бульбоўніка.

Мне ўпершыню стала цесна і няўтульна.

У баразну да выаранай бульбы падалі саспелыя чырвоныя грушы (рэдкі гатунак), а ў мамы забалеў жывот. Яе адвезлі ў бальніцу ў Слуцк, дзе яна, збіраючы сілы, нават змагла паспаць.

А вечарам 11 верасня 1972 года і з'явіўся я. І закрычаў.

Мне хацелася сонца і малака...

Маёй першай зямной прапіскай стала вёска Набушава старадаўняй Случчыны. У XIX стагоддзі гэта — сціплы шляхецкі засценак. У ім — наколькі хапае згадак і ўспамінаў родзічаў — і жылі мае дзяды-прадзеды. Прадзед Мітрафан Пашкевіч працаваў на зямлі і разводзіў коней. З дзябёлай кабылкай патрапіў у Пецярбург на выставу — і заняў прызавое месца. Атрымаў узнагароду царскімі залатоўкамі — і прыкупіў некалькі валокаў зямлі, падзяліў іх паміж пяццю дзецьмі. Золата здаў у таргсін — і тое выратавала ад Сібіры, калі да яго прыйшлі ўпаўнаважаныя. «Вось адпаведная даведка, — сказаў, — а золата цяпер — гэтая зямля»...

А затым Случчына стала нейтральнай зонай паміж польскім войскам і Чырвонай арміяй. Распачаўся антыбальшавіцкі Слуцкі збройны чын. Старэйшы сын Мітрафана пайшоў у паўстанцкі полк — і быў інтэрнаваны за Ланню на польскай тэрыторыі. След ягоны на тым згубіўся. Малодшы сын Мітрафана — Іван, бацька майго бацькі Аляксандра, — быў у 1941 годзе мабілізаваны на фронт (у хаце з жонкай Марыяй засталіся два сыны — трохгадовы і паўтарагадовы) і загінуў, па адных звестках, пад сценамі Кёнігсберга-Караляўца, па другіх — у Чэхаславакіі. Другі мой дзед па матчынай лініі Іван Пятровіч Акуліч партызаніў, ваяваў у дзеючай арміі — і вярнуўся жывым, і праз два гады пасля перамогі з маёй бабуляй Соф'яй нарадзіў дачку Зою — маю маму.

З імі і звязаныя мае і першыя крокі, і першыя ўспаміны. Мама працавала ў вясковай краме прадаўцом, бацька сачыў за меліярацыяй: абкошваў на колішніх балотах канавы. Гадаваў мяне дзед Іван, які жыў у нашай хаце. Прачнуўшыся, я выбягаў на вуліцу і прасіў яго: «Дзед, пасі мяне». У шэсць гадоў ён навучыў мяне спраўна касіць, адмыслова асадзіўшы дзеля гэтага пад мой рост касільна і лучок. «Хоць генералам будзь, а касіць умей», — паўтараў шматкроць.

З шасці гадоў я сябе і памятаю. З незвычайнай на той узрост прыгоды: у мяне дзень народзінаў, у краме сабраліся вясковыя жанчыны — і ўгаварылі маму адзначыць мой юбілей савецкім «Савіньёнам». З 50 грамаў нейкім чынам дасталося і мне — і я з песнямі, трымаючыся за плот, ледзь даклыпаў да хаты — нейкіх семдзясят-сто метраў. Сядзеў на ганку варывенькі і спяваў: «Балэ-балэ-балэ...». «А галава як у нягеглага пеўня на плячо падала», — успамінаў дзед.

А далей — лес, грыбы, кар'ер-копанка, рыба, сябры, кнігі. І — школа.

У Вясейскую школу мусіў дабірацца за шэсць кіламетраў — і ў дождж, і ў снег. Але тыя гады ўзгадваюцца сонечна: добрыя настаўнікі, новыя ўражанні; вучоба, якая давалася лёгка і цікава. Памятаю ўсе прачытаныя ў той час кнігі. У старэйшых класах ездзіў у Слуцк — на заняткі школы юных рабселькораў пры рэдакцыі раёнкі «Шлях Ільіча».

У 1989 годзе з залатым медалём скончыў школу і вырашыў паступаць у БДУ. Меркаваў — на журфак, але старэйшы (і адзіны) брат Віктар, на той час сам студэнт-журфакавец, адгаварыў, і дакументы мы з ім падалі ў прыёмную камісію філалагічнага факультэта. Здаў першы экзамен на «выдатна» — і быў залічаны студэнтам.

Чаму менавіта такі выбар? Атрымлівалася, да прыкладу, і з хіміяй (удзельнічаў у абласных алімпіядах), але цягнула толькі да слова. Да беларускага слова.

### Вучоба слову

Студэнцтва — асобная залачоная старонка маёй жыццёвай кнігі. Асабліва калі яно — як у мяне — супала і з асабістым станаўленнем, і са станаўленнем краіны.

Тагачасны філфак БДУ — акадэмія з найслаўнымі выкладчыкамі-славістамі: прафесары Супрун, Шакун, Бурак... Першы ў жыцці студэнцкі экзамен — «Гісторыю КПСС» — здаваў дэкану Ваўку, а праз тры гады тая партыя апынулася пад забаронай... Хацеў (на першым курсе) пасля ўніверсітэта паступаць у Вышэйшую партыйную школу, а на чацвёртым курсе ўжо вучыўся ў ейных сценах дома 31 па вуліцы Карла Маркса — куды пераехаў-перабраўся філалагічны факультэт БДУ на чале са сваім новым дэканам — прафесарам і пісьменнікам Алегам Антонавічам Лойкам. Мой першы дэкан на першай лекцыі хваліўся, што прачытаў поўны збор твораў Леніна, а дэкан Лойка першую лекцыю пачаў з прызнання, што прачытаў усе старабеларускія летапісы і хронікі... Ён — Алег Лойка — стаў маім хросным апекуном: кіраўніком дыпломнай, навуковым кіраўніком кандыдацкай, навуковым кансультантам доктарскай дысертацый. І аўтарам прадмовы да майго першага зборніка паэзіі «Нябесная сірвента», якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры», калі я быў яшчэ студэнтам.

Тагачасны філфак універсітэта вучыў мяне не толькі думаць, чытаць і пісаць, але і вязаць ды скірдаваць снапы аршанскага лёну (восеньская практыка), падвязваць вінаграднікі ды палоць тытунь (крымскі будатрад, камандзірам якога мяне прызначылі). А яшчэ — хадзіць на шматтысячныя апазіцыйныя мітынгі. І... піць моцныя напоі. З год я жыў у студэнцкім інтэрнаце на Кастрычніцкай у адным пакоі з кіраўніком паўночна-карэйскага зямляцтва-студэнцтва Анам Дон Чэрам.

Стыпендыю-заробак на той час ён атрымліваў нечуваную — 600 рублёў (думаю, і рэктар столькі не меў). Ан — шчыры і кампанейскі чалавек — ладзіў сустрэчы з землякамі (і гуманітарыямі, і курсантамі-лётчыкамі), умеў смачна кухарыць-гатаваць, а ў ягоным вялікім халадзільніку заўсёды чакалі скрыня гарэлкі і скрыня шампанскага. Аднак найбольш ён паважаў родную гарэлку, якую перадавалі з маскоўскага дыппасольства, — жаўтаваты спіртус у трохкутнай бутэльцы са змейкай унутры... Гэта таксама была адмысловая практыка, асабліва калі назаўтра зранку ва ўніверсітэце цябе чакаў экзамен па нямецкай мове.

Даўшы мне — першакурсніку — паспаць з паўгадзіны, адказны Ан будзіў і перад іспытам даваў тоўсты, з вялікі палец, корань цалебнага жэньшэню, — і пасля яго не толькі спаць некалькі дзён не хацелася, але і пачынаў пачуваць сябе немцам з баварскім вымаўленнем, і экзамен здаваўся на выдатна.

Аднак жэньшэнь не здолеў ўратаваць паўночных карэйцаў (і тых, хто вучыўся расійскай мове, і тых, хто штудзіраваў лётную справу) ад гарбачоўскай перабудовы... Пачасцелі праверкі, падчас якіх мае карэйскія сябры дэманстратыўна чаплялі на пінжакі камсамольскія значкі з выявай Кім Ір Сэна, а праз месяц іх усіх спешна вывезлі на радзіму — каб не набраліся дэмакратычнай заразы. З Анам перад развітаннем мы абмяняліся хатнімі адрасамі, але ані слова ад яго не прыйшло...

Была ў маім студэнцтве яшчэ і вайсковая кафедра, і зборы, і прысяга на пляцы пад бел-чырвона-белым сцягам, і запіс у ваенным білеце: камандзір узвода мотапяхоты...

Шмат у чым спрыяла мне і літаратурнае аб'яднанне «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена», і падтрымка ягонага нястомнага літкансультанта Алеся Герасімавіча Масарэнкі. Літаратурная моладзь у разгар дэмакратыі (пачатак 90-х) заснавала і выдавала на грошы дзяржавы свой штомесячны часопіс «Першацвет», і я — студэнтам — працаваў намеснікам галоўнага рэдактара. А яшчэ — і кіраўніком згаданага літаб'яднання «Крыніцы».

А галоўнае — не пераставаў быць удзячным брату за тое, што некалі з'агітаваў мяне паступаць на філфак. І найперш — з наступнай прычыны. Уявіце: на курсе 110 чалавек, і з іх толькі дзесяць хлопцаў! Проста дзявочае царства! Філфаку я абавязаны сваёй жонкай Вольгай, з якой пяць гадоў адвучыўся на адным курсе і ў адной групе. А затым напісалі з ёй дачку Алесю і сына Багдана...

Закончыў БДУ з чырвоным дыпломам, паступіў і на выдатна адвучыўся ў аспірантуры. Абараніў кандыдацкую «Феномен узвышэнства ў беларускай паэзіі XX стагоддзя», стаў выкладаць у альмаматэры. Падрыхтаваў і абараніў (у трыццаць гадоў) доктарскую — ужо па прозе. Яе тэма — «Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў прозе беларускага замежжа XX стагоддзя».

### Захапленне словам

Як стаў пісьменнікам — не ведаю. Згадваюцца нейкія нявызначаныя памкненні, адчуванне радаснай і бадзёрай узлётнасці — не раўнуючы, як пасля ўжывання карэйскага жэньшэню. Мноствам спасціглых кніг пахваліцца не магу. Найбольш уразілі ў школьніцтве з прозы — Янка Маўр, Іван Мележ, Якуб Колас, Міхаіл Лермантаў, Барыс Васільеў, у паэзіі — Максім Багдановіч, Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў. Пазней да іх з беларусаў дадаліся Кузьма Чорны, Андрэй Мрый, Вацлаў Ластоўскі, Уладзіміры Жылка і Дубоўка... Помню, штосьці сам рыфмаваў яшчэ з чацвёртага класа. Выдатна атрымліваліся сачыненні. Але зацікаўленасць у сваім пісьменніцтве выразна адчуў з пятага класа — падчас ліставання са сваім стрыечным дзядзькам Анатолем з Асіповічаў (унукам майго прадзеда Мітрафана): мой рэспандэнт рабаваўся маім беларускамоўным лістам і прасіў пісаць часцей...

Напачатку 1995 года я — як аўтар паэтычнага зборніка — быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (пасля таго, як па зменена́м заканадаўстве назву краіны было забаронена ўжываць у назвах недзяржаўных арганізацый, ён быў перайменаваны ў Саюз беларускіх пісьменнікаў). Апублікаваў раман-дакумент пра Слуцкі збройны чын і трагічную гісторыю БНР «Пляц волі», дзве літаратуразнаўчыя манаграфіі. У 2002-м таемным галасаваннем быў абраны старшынёй адзінага на той час пісьменніцкага Саюза. У 2006-м пераабраны на другі тэрмін. Крыху працягваў пісаць, друкавацца. Вершы і проза перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, літоўскую, балгарскую, славацкую, ангійскую і шведскую мовы...

Быццё — быццём, а проза — прозай. У звязку з гэтым, думаецца, я прайшоў яшчэ і дактарантуру па вывучэнні дзяржаўнага механізму, чалавечага двудушша, паклёпніцтва, чыноўніцкай хціўасці. «Стажыраваўся» і ў высокіх кабінетах Адміністрацыі прэзідэнта, і ў альмаматэр, і ў апартаментах Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, і яшчэ шмат дзе. За некалькі дзён да з'езда Саюза пісьменнікаў (2002 год) тагачасны памочнік кіраўніка Беларусі

і начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення настойліва ўгаворваў мяне зняць кандыдатуру перад галасаваннем, прапаноўваў пабыць намеснікам старшыні, уважліва распытваў пра працу — і акуратна запісаў тэму маёй доктарскай у свой блакноцік з дзяржаўнымі сімваламі на вокладцы. «Вы ж разумны чалавек, вам жыць далей...» — падрахаваў. «Пераможцаў не судзяць», — занадта ўпэўнена, адмаўляючыся ад ягонай прапановы, я сказаў яму перад адкрыццём перавыбарнага З'езда.

І памыліўся: у нас судзяць усіх. І, у прыватнасці, трыццацігадовага доктара філалагічных навук, старшыню Саюза пісьменнікаў. Рашэнне Вучонага савета БДУ па прысуджэнні мне навуковай доктарскай ступені двойчы зацвярджалася на спецыялізаваным Экспертным савеце Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, аднак ягоны прэзідыум нястомна (два гады!) шукаў чорнага рэцэнзента, які б напісаў адмоўны водгук.

Такога ў Беларусі не знайшлося, і ідэолагі пайшлі апошнім апрабаваным шляхам: аўтарэферат дысертацыі «выпадкова» трапіў у рукі групы генералаў, палкоўнікаў, ветэранаў вайны. Яны і даслалі прэзідэнту ды ў іншыя інстанцыі свой калектыўны абураны водзыў, у якім амаль кожны радок аўтарэферату называўся «опошлением белорусской национальной идеи, внутренней и внешней политики Республики Беларусь, а сама праца — хорошо продуманной и организованной политической и идеологической акцией, маскируемой под науку», «попыткой националистов и их зарубежных покровителей украсть у белорусского и других народов бывшего Советского Союза Победу» і «антигосударственной, антипатриотической, национал-предательской диверсией». Ні больш — ні менш...

Вышэйзгаданыя генералы-ветэраны (не паверыце, але сярод іх былі і тыя, хто некалі пісалі паклёпы на Васіля Быкава) у згаданым лісце прасілі кіраўніка дзяржавы «защитить идеологию современного белорусского государства, защитить белорусскую науку от перевёртышей, карьеристов и политических проходимцев». Як разумееце, пасля такой «рэцэнзіі» мне і не выдалі пасведчанне... А наўздагон тым жа высокім адрасатам пайшлі даносы на майго навуковага кансультанта і мяне — за некаторымі подпісамі калег-кафедралаў. Словам, анічога новага пад небам...

## Слова пра пасады і кнігі

Так, анічога. І напісанае Грыбаедавым дзвесце гадоў таму «Служить бы рад, прислуживаться тошно» застаецца, на жаль, актуальным і сёння. Званні, прэміі, пасады...

Думаю, яны творцам перашкаджаюць, і прыклады можна пералічваць доўга. Наогул, для чалавека як для не зусім дасканалай істоты пасада — гэта своеасаблівы сацыяльны наркотык. І чым вышэйшая пасада, тым мацнейшая «інтаксікацыя». Аднак у ідэале ў творцы адзінай пасадай павінна быць літаратура. Ну і сям'я, калі атрымаецца...

Тым не менш, я 10 гадоў быў, як пісалі некаторыя журналісты, самым галоўным у Саюзе беларускіх пісьменнікаў, пяць — першым намеснікам, сёлета на пяць гадоў зноў абраны Радай першым намеснікам. Ну... быў некалі кабінет з прыёмнай у Доме літаратара метраў з дзвесце квадратных... Ну прыходзілі ў яго цыбатыя фельд'егеры з урадавай ці прэзідэнцкай поштай... І была ўрадавая вяртушка (мабільнай сувязь на той час яшчэ не перамагла, і нават кіраўнікі Адміністрацыі прэзідэнта праз секунду-другую ўласнаручна падымалі слухаўку)... Але ўсё ж гэта была не пасада. Хутчэй — патэльня. І я з таварышамі-калегамі пачуваліся ў тых кабінетах юнамі. Праўда, і з'есці сябе не далі.

Я бачыў, напрыклад, як пішчыць ды круціцца-сквірчыць на вясковай патэльні вылаўлены ўюн... Мяне ж не лавілі і не смажылі. Нерваў, безумоўна, папілі... Але ж рашэнне пайсці на тое я прымаў сам, як кажуць, у поўнай свядомасці. Ды і па сёння аб тым не шкадую, бо крыху ведаю гісторыю, у прыватнасці — беларускай літаратуры. Якая там патэльня?.. Ну было некалькі пагражальных начных званкоў... Ну аднойчы на лабавое шкло маёй машыны (калі заязджаў да пад'езда) упала цагліна... Ну пагаварыў аднойчы ласкава асабіст... Ну некалькі даносаў на самы верх на мяне напісалі... Яшчэ тое-сёе... Але ж мы ўсведамляем: дзе мы і як мы. Не Калыма, не Курапаты... Мне пашчасціла яшчэ ў студэнцкія гады пазнаёміцца і пасябраваць з былымі рэпрэсаванымі выдатнымі паэтамі і людзьмі Алесем Звонакам і Паўлам Пруднікавым. Вось яны ды іхняе пакаленне зведалі сапраўднае пекла ды «патэльні».

А галоўнымі ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў у часе майго старшынства былі ўсё ж Народныя пісьменнікі і паэты (ды і дасюль неперaўзыдзеныя творцы) Васіль Быкаў, Янка Брыль, Іван Шамякін, Іван Навуменка, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, а таксама роўныя ім Анатоль Вярцінскі, Анатоль Кудравец, Генадзь Бураўкін, Алесь Жук, Уладзімір Някляеў, Вольга Іпатава, Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, а таксама заставаліся дзясяткі і сотні найлепшых сучасных нацыянальных літаратараў, якія дзве кадэнцыі (па статуце нашай арганізацыі, як, зрэшты, і па Канстытуцыі дзяржавы, больш заставацца пры ўладзе недапушчальна) галасавалі за мяне, падтрымлівалі і дапамагалі. Дапамагалі і журналісты, і праваабаронцы, і замежныя дыпламаты, зрэдку — і высокапастаўленыя чыноўнікі (Латыпаў, Падгайны, Князеў, Якубовіч).

У часе майго старшынства давалося прайсці і суд па ліквідацыі-забароне Саюза пісьменнікаў, і перажыць ягоны раскол (стварэнне новай пісьменніцкай арганізацыі). Зрэшты, найперш трэба гаварыць не пра раскол, а пра «раскольнікаў»: тых, што пры ўладнай падтрымцы хацеў заняць пэўны кабінет, займець заробак і фінансаванне з дзяржбюджэту (якіх мудры Іван Пятровіч Шамякін назваў творчымі імпатэнтамі)... Ва ўсе ўстановы (школы, ВНУ, бібліятэкі), дзе працавалі нашы літаратары, спусцілі дырэктыву: ці пішаш заяву аб выходзе з апальнага Саюза і пераходзіш у новы «правільны», ці пішаш заяву аб звальненні. Колькі дзяржвысілкаў патрацілі! А колькі нерваў творцам спалілі?.. Вось і мусіла частка з іх ратавацца. Ну а некалькі дзясяткаў перайшлі ў новаствораны пісьменніцкі Саюз самохаць. Усіх разам — каля сотні. Аднак праз некалькі гадоў найбольш вядомыя і таленавітыя з іх вярнуліся назад. І цяпер у арганізацыі сітуацыя стабільная: таварыства аднадумцаў.



З філфакаўскім настаўнікам і старэйшым сябрам Алегам Лойкам. 1998 год.



Міністр замежных спраў Украіны ўручае пісьменніку ордэн «За заслугі» і пасведчанне з подпісам Віктара Ючшанкі. 2007 год.



З жонкай Вольгай. 2015 год.

Адносіны сапраўднага творцы і дзяржавы заўсёды складаныя. Але гэта гледзячы якая дзяржава-краіна. У некаторых улады падтрымліваюць творцаў (не на паперы), у некаторых — высылаюць ці знішчаюць. Аднак ва ўсіх выпадках адносіны няпростыя. У ідэале творца — сам сабе дзяржава.

Ці спрабавалі мяне купіць ці запалохаць? Купіць — не, а вось апошняе — здаралася...

«Здарылася» ў тым часе і яшчэ некалькі маіх кніг: раман-біяграфія «Круг» пра найталенавітага нацыянальнага паэта Беларусі Уладзіміра Дубоўку, якога Купала называў беларускім Пушкіным і які 28 (!) гадоў правёў у сталінскім зняволенні — і не скарыўся, вытрымаў. Затым была кніга «Сімъ победиши», а яшчэ — з дзясятак эсэ ды нізка вершаў. Ну і кніга (аповесць пра Нобеля) «Рух».

## Вера ў слова

Жыццёвае крэда з літаратурным супадаюць: «Быць». Быць з вялікай літары. Ну а незвычайнае жаданне... Над беларускай літаратурай другой паловы ХХ стагоддзя рэфрэнам гучаў сімвал «сена на асфальце» (апавяданне Міхася Стральцова). Вяскоўцы, якія ішлі ў літаратуру, асядалі ў горадзе, жылі ў настальгіі, ім мроілася і сена вясковае, і падабаўся ўрбаністычны асфальт. Яны імкнуліся ў творчасці спалучыць вёску і горад.

У Стакгольме на адной з цэнтральных вуліцаў, якая вядзе да каралеўскага палаца, пасярод асфальту замест дарожнай разметкі вылітыя словы класіка шведскай літаратуры Стрындберга. І вось аднойчы мне захацелася бачыць на адной з цэнтральных вуліцаў Менску (нават і месца выбраў — цяперашняя вуліца Карла Маркса) вылітыя выказванні нашых літаратурных класікаў. Можа, тады і будзе што ўспомніць не толькі старэйшынам нашай літаратуры і спакайней уздыхнуць, але і сённяшнім маладзейшым — не толькі літаратарам, мастакам, музыкам, спевакам, але і тым людзям, якія патрапяць у нашу сталіцу ды пройдуцца яе вулкамі, у якіх не толькі будуць умураваныя беларускамоўныя тэксты, але і на якіх будзе гучаць годна і ўзнёсла беларуская мова?..

Хобі — анічым не займацца. Проста па-японску сузіраць. А яшчэ захапляюць машыны, дарога, горы, мора (апошняга неставала на маёй «роўнай» Случчыне).

Пра веру ж некалькімі сказамі не распавесці... Веру ў зямлю і неба над ёй. Не ў Зямлю як частку космасу, а ў той лапік, на якім упершыню стаў на ногі, у той куток Случчыны, абжыты, тысячы разоў пераараны ды ўтаптаны маімі дзядамі-прадзедамі.

Веру высокім, моцным дрэвам, якія звязваюць маю зямлю з небам. Веру найперш вязу і грабу.

Веру восеньскаму верасню, у які прыйшоў на свет: у ягоную шчодрасць ды сімвалічную вынікoвасць.

Веру сабакам і катам. З мільярдаў людзей веру адзінкам (ды і тое, баюся, часова). З людскога царства найбольш веру нябожчыкам: яны не баяцца, не хлусяць і не зайздросцяць.

Веру ў каханне — як у адзінае, што трымае і лякуе.

Веру ў слова, у ягоную найвялікую моц — і сонечную, і чорную. У ягоную першаснасць і першапрычыннасць.

Нарэшце, веру ў мудрага Стваральніка ўсяго вышэй названага, у ягоную дабрыню і цярплівасць.

Мог бы паверыць у матэматычна-фізічныя формулы ды тэарэмы, але як верыць нежывому? (Нябожчыкі — выключэнне...) Я нават не веру ў тое, што 2 + 2 = 4, бо трымаюся першаснасці і абсалюту тварэння. Тварыць — гэта значыць называць, супастаўляць, ксціць словам. Назаві хтосьці першым чацвёрку пяцёркай, і 2 + 2 было б 5...

*І яшчэ паэтычна хачу верыць у тое,*
*што не зрокся і ўнук зямлі:*
*узараўшы нябёсы болем,*
*на чырвоным арле-кані*
*праімчуся бялюткім полем;*

*што не вечны ў грудзях кашчэй,*
*што ў нябыт павядуць не першым,*
*што чарніла святых начэй*
*яшчэ хопіць*
*на дзесяць*
*вершаў...*

Перакананы, што пытанне «У што я веру?» мусіць паўставаць першым у кожнага творцы. Так сталася, што традыцыйна нашы літаратары зазвычай адказваюць на пытанне «Што рабіць?». А першым пытаннем сапраўднага літаратара павінна быць — «У што я веру?». А потым ужо мусім думаць, што рабіць, каб тую веру не страціць, і як яе пашырыць».

**Фота з асабістага архіву Алеся Пашкевіча**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЕС. Кебабаў не будзе?

На мінулым тыдні Камісія па пытаннях здароўя пры Еўрапарламенце адхіліла прапанову Еўракамісіі дазволіць выкарыстанне ў кебабах мяса, якое ўтрымлівае фасфаты. Раней усё мяса з фасфатамі ў Еўрасаюзе было абвешчана па-за законам праз адмоўны ўплыў на арганізм чалавека. Такім чынам, узнікла пагроза забароны ў ЕС адной з самых папулярных страў. Дакладнай статыстыкі продажаў кебабаў у Еўропе няма, аднак яна відавочна вельмі вялікая. Дастаткова сказаць, што па ўсёй Еўропе ў гэтым сектары працуюць 200 тысяч супрацоўнікаў. Толькі ў Вялікабрытаніі штодня прадаюць больш за мільён кебабаў. Найбольшыя негатыўныя наступствы забарона індустрыі кебабаў можа мець у Германіі, дзе ў гэтай сферы занята шмат туркаў-мігрантаў. З улікам згаданых фактараў, можна прагназаваць, што кебаб усё ж застанецца ў меню еўрапейскіх кулінарных устаноў. Напрыканцы застаецца ўзгадаць забаўны факт: лічыцца, што сучасны еўрапейскі кебаб прыдумаў у 1971-м 16-гадовы турэцкі хлопчык, які працаваў у фамільнай рэстарацыі ў Берліне.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ХАРВАТЫЯ. Новы герой

З кожным днём у Харватыі набірае моц культ генерала Слабадана Праляка – таго самага, якога судзілі ў Гаагскім трыбунале за вайсковыя злачынствы супраць сербаў у Босніі ў часы войнаў пасля распаду Югаславіі. Як вядома, падчас абвяшчэння вердыкту Праляк паспеў выпіць смяротную дозу атруты. Сцэна выклікала не толькі скандал (дасюль не зразумела, як генерал пранёс атруту ў залу), аднак і хвалю глярыфікацыі нябожчыка на яго радзіме. Мясцовы прэм'ер ухваліў учынак генерала, а парламент ушанаваў яго хвілінай маўчання. У цэнтры Заграбу спантанна ўзнікла месца памяці генерала, куды людзі нясуць знічкі. Нават сербскія нацыяналісты вуснамі Ваіслава Шэшаля выказалі павагу на адрас харвата. Пры гэтым абсалютна ігнаруюць прычыны таго, чаму Праляк трапіў за краты. Дайшло нават да пагрозаў дэпутату ад ліберальнай партыі, які адмовіўся ўшаноўваць памяць вязня Гаагі. Застаецца дадаць, што заходнія медыя, каментуючы культ вайсковага злачынца, дайшлі да пытання: ці варта было прымаць Харватыю ў склад ЕС?

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Шансон у гонар Назарбаева

Асуджаныя калоніі ў пасёлку Зарэчны, што пад Алматы, арыгінальна адзначылі «Дзень першага прэзідэнта Казахстана», які ў краіне святкавалі напачатку снежня. Напярэдадні свята зэкі напісалі песню, якую прысвяцілі гаранту. Праўда, песня, якую ўпершыню выканаў 26-гадовы Яўген Хахлоў, што адбывае пакаранне за распаўсюд наркотыкаў, не падобная на звычайны «блатняк». У прыпеве кампазіцыі гучаць наступныя радкі: «Наш прэзідэнт Нурсултан. І сцяг нашага лёсу – наш Казахстан. Ад цянь-шанскіх снягоў і да сібірскай тайгі – усё гэта наша зямля, усё гэта мы». Гэта відавочная перапеўка песні «Неба славян» Канстанціна Кінчава. Каментатары пагаджаюцца, што аўтары тэксту намагаюцца за кошт песні скараціць сабе турэмныя тэрміны. Праўда, для гэтага патрэбна, каб Елбасы заўважыў іх учынак. Зрабіць гэта будзе няпроста. Назарбаева ў святочны дзень літаральна закідалі падарункамі. Напрыклад, у Алматы перайменавалі адну з цэнтральных вуліц – вуліцу Фурманава. Яна стала называцца праспектам Нурсултана Назарбаева.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Абвясціць рокера святым

Уся Францыя смуткуе з нагоды смерці Джоні Халідэя – мегазоркі мясцовай эстрады, якога называюць французскім Элвісам Прэслі. Халідэй (сапраўднае імя Жан-Філіп Леа Смет) памёр 6 снежня на 74-м годзе жыцця. Яго статус усенароднага куміра ілюструе факт, што Джоні, які не хаваў сімпатыю да правых партый, тройчы выступаў на фестывалі газеты «L'Humanite» – органа французскай Кампартыі. Па сутнасці, Халідэю ўдалося стаць сімвалам вельмі заможных і багатых на культурныя падзеі 1960-х гадоў, калі ён пачаў сваю кар'еру. Падабалася людзям і тое, што хлопец, які вырас у беднасці без бацькоў і лічыўся ізгоем праз тое, што яго родныя супрацоўнічалі з гітлераўскімі акупантамі, здолеў самастойна зрабіць кар'еру. Акрамя шыкоўнага пахавання з удзелам прэзідэнта Эмануэля Макрона, гучаць самыя незвычайныя ідэі ўшанавадь спевака. Так, з'явілася ініцыятыва надаць Халідэю, які быў каталікам, статус святога. Касцёл пакуль не каментуе ідэю. Дарэчы, істэрыка вакол Халідэя выклікала шок у іншых краінах. Нягледзячы на мегапапулярнасць у Францыі, Халідэй пры жыцці быў абсалютна не вядомы за межамі краіны.

**Паводле французскай прэсы**



Фота www.telegraph.co.uk

# Корсіка абірае шлях Каталоніі?

Алег НОВІКАЎ

**Прывід Каталоніі крочыць па планеце. Ці будзе вымушаная Францыя ўслед за Іспаніяй сутыкнуцца з пагрозай сепаратызму?**

Падставай уздымаць такое пытанне сталі вынікі другога туру выбараў на Корсіцы, што адбыліся 10 снежня. Кааліцыя карсіканскіх нацыяналістаў «Pé a Corsica» атрымала перамогу на выбарах у рэгіянальную асамблею, дзе будзе мець 41 з 63 дэпутацкіх мандатаў. Пры гэтым мясцовыя секцыі французскіх партый на выбарах выступілі ў ролі статыстаў.

Гэта беспрэцэдэнтны поспех нацыяналістаў, які яны самі ўспрымаюць як гістарычны шанец. Праўда, тэма незалежнасці вострава ад Парыжу пакуль не ўздымаецца. Выбарчая праграма «Pé a Corsica» будавалася на абяцаннях правесці шэраг рэформаў – надаць больш высокі статус карсіканскай мове, дамагчыся фіскальнай аўтаноміі і амністыі для нацыяналістаў, якія раней трапілі ў турмы за розныя правінасці.

Найбольш экзатычнае патрабаванне – увядзенне карткі рэзідэнта Корсікі. Толькі наяўнасць такой карткі, якую можна будзе атрымаць пасля 5 гадоў пражывання, дазволіць яе ўладальніку набываць на востраве нерухомасць або мець права на працаўладкаванне. Картка карсіканца разглядаецца як сродак барацьбы супраць спекулянтаў і будаўнічых кампаній, якія наносяць экалагічную шкоду востраву.

Так ці інакш, пра незалежнасць гаворкі няма. Як падкрэсліў пасля абвяшчэння вынікаў першага тура галасавання Жыль Сімеоні, лідар «Pé a Corsica», «мы жадаем больш дэмакратыі, больш міру і больш пераменаў на востраве. Парыж, у сваю чаргу, павінен разам з намі шукаць палітычнае рашэнне».

Тут, праўда, трэба ўзгадаць, што «Pé a Corsica» – гэта шырокае аб'яднанне, куды таксама ўваходзяць больш радыкальныя групоўкі. Жан-Гі Таламоні, лідар гэтай фракцыі, падчас кампаніі ахвотна дзяліўся фантазіямі накont суверэннай Корсікі. Паводле яго словаў, праз 10–15 гадоў ёсць перспектыва вынесці на плебісцыт пытанне наконт фактычнай незалежнасці вострава.

Аднак і значна больш сціплыя планы карсіканцаў выклікаюць негатыўную рэакцыю ў Парыжы. Літаральна пасля абвяшчэння вынікаў галасавання афіцыйныя крыніцы заявілі пра неадпаведнасць праграмы «Pé a Corsica» дзеючым законам рэспублікі. Найперш у Парыжы раскрытыкавалі ідэю карткі рэзідэнта, якая наўпрост супярэчыць параграфу аб роўнасці ўсіх грамадзян Французскай Рэспублікі. Па сутнасці, як кажуць юрысты, каб рэалізаваць праграму Сімеоні, трэба карэктаваць Асноўны закон.

Дарэчы, Парыж не першы раз займаецца тым, што тлумачыць карсіканцам прававыя межы іх памкненняў. У свой час папярэдні прэм'ер-сацыяліст Мануэль Вальс ужо блакаваў аналагічныя рэзалюцыі папярэдняй карсіканскай адміністрацыі, куды ў 2015 годзе ўваходзілі нацыяналісты. Тады карсіканцы таксама патрабавалі амністыі і ўвядзення карткі рэзідэнта. Мясцовыя палітыкі забыліся пра свае патрабаванні на тры гады, пакуль не абвясцілі новыя выбары.

Пра спекулятыўны характар незалежніцкіх лозунгаў сведчаць і дадзеныя сацыёлагаў. Хаця карсіканцы масава галасуюць за партыю незалежнасці, на самай справе абвяшчэння суверэнітэту хочуць не больш за 4–5 працэнтаў жыхароў выспы. Шмат хто лічыць, што галасаванне на Корсіцы мае пратэстны характар. За нацыяналістаў пачалі галасаваць пасля таго, як у 2015 годзе склаў зброю Фронт нацыянальнага вызвалення Корсікі – нацыяналістычная мілітарная групоўка.

Аднак гэтым разам наўрад ці ўсё скончыцца так мірна, як тры гады таму. Падзеі ў Каталоніі моцна паўплывалі на настроі карсіканцаў. Нягледзячы на рапарты Мадрыду пра тое, што каталонская фронда падаўленая, развязка крызісу ў Барселоне дасюль не зразумелая. У дадатак Еўропа знаходзіцца на парозе радыкальных трансфармацый. Берлін і Парыж – лакаматывы еўраінтэграцыі – выступаюць за больш маналітную Еўропу. Фарсіраваная еўраінтэграцыя, як спадзяюцца нацыяналісты, запусціць працэс передачы паўнамоцтваў ад Парыжу або Мадрыду да Брусэлю, што, мяркуюць, абудзіць лакальны нацыяналізм. У выніку канфлікт з часам перафарматуе Еўропу ў саюз народаў, а не дзяржаў.

Акрамя таго, зараз карсіканцы не самотныя ў сваіх амбіцыях. Падзеі ў Каталоніі абудзілі і іншыя французскія рэгіёны. Галасаванне на Корсіцы прайшло на наступны дзень пасля таго, як у Парыжы адбылася дэманстрацыя французскіх баскаў. Прадстаўнікі баскскай нацыі пражываюць па абодва бакі франка-іспанскай мяжы. І калі іспанская Краіна Баскаў карыстаецца аўтаноміяй, то баскі, якія жывуць у французскім дэпартаменце Атлантычныя Пірынеі, такіх аўтаномных правоў пакуль не маюць. У студзені гэтага года 158 камунаў у дэпартаменце выступілі за стварэнне асобнай адміністратыўнай адзінкі для баскаў. Пасля 2020 года, калі ў краі пройдуць мясцовыя выбары, можа пачацца кампанія за канчатковае афармленне аўтаноміі.

Эксперты лічацца, што каталізатарам сепаратысцкага руху ў французскіх рэгіёнах могуць стаць вынікі галасавання ў Новай Каледоніі – французскім заморскім дэпартаменце ў Ціхім акіяне. У лістападзе наступнага года канакі (так называюць абарыгенаў), паводле дамовы з Парыжам ад 1988 года, павінны ў межах рэферэндуму абраць паміж незалежнасцю і аўтаноміяй. Калі канакі абяруць незалежнасць, яны выклічуць эфект даміно. У такім выпадку, як піша орган карсіканскіх нацыяналістаў «Unita Nazuonale», Корсіка і французская частка Краіны Баскаў змогуць паставіць пытанне пра выхад са складу Францыі прыкладна ў 2040 годзе.

# Ці захопіць Цукерберг Белы дом?

Алег НОВІКАЎ

**У заходніх медыях — новая хваля чутак пра тое, што Марк Цукерберг, заснавальнік Facebook, збіраецца ў прэзідэнты ЗША.**



Фота www.medium.com

Пачалося ўсё год таму, калі на адной з навагодніх імпрэзаў Цукерберг абвясціў пра асабістую мэту на наступны год — да канца 2017-га ў межах дзейнасці свайго фонду наведаць усе штаты ЗША і пазнаёміцца з іх жыхарамі. Прэса адразу напружылася. Мала хто паверыў, што такога кшталту турнэ выкліканае прыступам філантропіі. Такія вояжы ўласцівыя тым, хто задумаў балатавацца ў прэзідэнты. У час паездак яны сустракаюцца з актывам, вывучаюць праблемы электарату, ствараюць свой выбарчы імідж.

Хаця сам Цукерберг катэгарычна адмовіў магчымасць балаціроўкі, яму не паверылі. Сапраўды, нашто ў такім разе браць у сваю каманду Дэвіда Пруфа, менеджара выбарчага штабу Барака Абамы ў 2008-м? Таксама вельмі падазрона выглядае вялікі інтарэс Цукерберга да штатаў так званага «іржавага поясу», дзе звычайна вызначаецца лёс прэзідэнцкіх выбараў.

У апошні час тэма прэзідэнцтва Цукерберга зноў вярнулася на старонкі СМІ. Яе пралогам стала серыя публікацый у медыях пра тое, што ЗША патрэбны малады прэзідэнт, які думае катэгорыямі XXI стагоддзя. Большасць прадстаўнікоў амерыканскай эліты сапраўды выглядаюць як дыназаўры. І, натуральна, лепшай кандыдатуры на гэтую ролю, чым вынаходнік Facebook, які нарадзіўся ў 1984-м, знайсці цяжка.

Калі Цукерберг сапраўды пойдзе ў палітыку, яго шанцы даволі высокія. Па-першае, ён мае каласальны матэрыяльны рэсурс для сваёй кампаніі. Нагадаем, што яго капітал ацэньваюць прыкладна ў 19 мільярдаў долараў. Для даведкі — выбарчая кампанія Хілары Клінтан у 2016 годзе каштавала каля мільярда. Хаця ў ЗША выбарчыя фонды фармуюцца за кошт ахвяраванняў, наўрад ці ў Цукерберга будуць пытанні з грашыма.

Па-другое, на кандыдатуру Цукерберга працуе Facebook, які некаторыя ўжо называюць чацвёртай галіной улады. Нават калі не размяшчаць там палітычнай рэкламы, кожны карыстальнік сеткі так ці інакш у глыбіні душы ўдзячны яе вынаходніку. Не кажучы пра тое, што сам Facebook сімвалізуе новую ступень прагрэсу, будучыню чалавецтва.

Аналізуючы змест выступаў стваральніка Facebook наконт розных актуальных падзей, журналісты ўжо нават склалі чарнавік праграмы кандыдата. Хутчэй за ўсё, у ёй будзе прысутнічаць такі блок, як барацьба са зменамі клімату. А крытыка міграцыйнай палітыкі Трампа і падтрымка руху «Black Lives Matter» — арганізацыі, якая выступае за правы афраамерыканцаў, — сведчаць пра тое, што

**ЗША патрэбны малады прэзідэнт, які думае катэгорыямі XXI стагоддзя. Большасць прадстаўнікоў амерыканскай эліты выглядаюць як дыназаўры. І таму лепшай кандыдатуры на гэтую ролю, чым вынаходнік Facebook, знайсці цяжка**

ў праграме Марка Цукерберга могуць уздымацца праблемы расавай роўнасці.

Фраза Цукербекера пра прыналежнасць «да генерацыі, якая павінна скончыць з беднасцю», дазваляе прагназаваць, што яго праграма будзе мець выразна сацыяльны характар. Дарэчы, калісьці ён нават заявіў, што плаціць падаткі павінны выключна багатыя людзі.

Вялікую ўвагу Цукерберг прысвячае пытанню асабістых свабодаў і свабоды камунікацыі. Гэта вынікае хаця б з яго словаў пра тое, што «свабода, адкрытасць і адчуванне прыналежнасць да глабальнай супольнасці павінны перашкаджаць аўтарытарызму, нацыяналізму і таталітарызму». На думку экспертаў, у выпадку прыходу Цукерберга ў Белы дом, ЗША будуць намагацца ствараць праз інтэрнэт новыя мадэлі глабальнай кааперацыі за кошт грамадзян, а не дзяржструктур.

Такая платформа больш-менш блізкая леваму крылу Дэмакратычнай партыі, аднак шмат хто сумняваецца ў тым, што Цукерберг мае намер ісці як прадстаўнік партыі. І сапраўды, нашто Марку партыя, калі ў яго пад рукой ёсць Facebook з двума мільярдамі падпісчыкаў?

Праўда, Facebook — гэта не толькі плюсы. Пасля шматлікіх скандалаў наконт выкарыстання расійскімі спецслужбамі сацсетак апаненты Цукерберга могуць абвінаваціць кандыдата ў нейкіх махінацыях у сецціве.

Гэта яшчэ без уліку новай дыскусіі пра адмоўную ролю сацыяльных сетак у розных сферах. Апошнім часам Facebook абвінавацілі ў тым, што сетка дапамагае злодзеям хавацца ад падаткаў, кансервуе інфантылізм у тынэйджараў, разбурае алгарытмы сямейнага жыцця. Усё больш сацыёлагаў лічаць, што сацсеткі вульгарызуюць палітычную думку, ускосна працуючы на партыі папулістаў. Адным словам, пры жаданні, Цукерберга можна зрабіць вінаватым за ўвесь негатыў у свеце.

Такім чынам, прыход Цукерберга ў палітыку не гарантуе яму лёгкай перамогі. Магчыма, таму ён дасюль вагаецца наконт таго, ці ісці на выбары. У любым выпадку, усе згодныя — калі стваральнік Facebook не будзе ўдзельнічаць у выбарах 2020-га, менавіта ён праз Facebook сфармуе іх правілы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Лопез Абрадор



Мексіканскі левы палітык, былы мэр Мехіка, паводле вынікаў сацыялагічных апытанняў, стаў асноўным фаварытам у выбарчай прэзідэнцкай кампаніі.

Гэта навіна з Мексікі выклікала рэзананс у ЗША. Справа ў тым, што, па сутнасці, Абрадор вядзе папулісцкую кампанію па ўзоры Дональда Трампа. Напрыклад, кандыдат абяцае рашуча расправіцца з карупцыяй і хутка вырашыць усе сацыяльныя праблемы. Пры гэтым значнае месца ў яго прамовах займае антыамерыканская рыторыка. У прыватнасці, Абрадор абяцае прагледзець умовы NAFTA — Паўночнаамерыканскай зоны свабоднага гандлю. Гэты праект адыгрывае вялікую ролю ў развіцці эканомікі ЗША. У выпадку абрання прэзідэнтам, Абрадор таксама гатовы ўвесці больш жорсткі памежны кантроль на поўначы — адказ на ідэю Дональда Трампа пабудаваць сцяну супраць мексіканцаў, якія нелегальна едуць у ЗША.

Занепакоеныя амерыканцы таксама тым, што ў свой час Абрадор пазітыўна ставіўся да курсу венесуэльскага кіраўніка Уга Чавеса і яго ваяўнічага антыамерыканізму.

Пакуль не зразумела, хто з мексіканскіх палітыкаў, якія пагалоўна загразлі ў карупцыі, зможа кінуць выклік Абрадору. Дарэчы, у 2006 годзе Абрадор ледзь не стаў прэзідэнтам. Пасля падліку 90 працэнтаў бюлетэняў ён быў лідарам, аднак у выніку прайграў. Хаця шмат хто казаў пра фальсіфікацыі, перагляду вынікаў не адбылося. І вось у Абрадора з'явіўся новы шанец.

Выбары прэзідэнта Мексікі, нагадаем, пройдуць у ліпені 2018 года.

### Уладзімір Плахатнюк



Зпадачы Дэмакратычнай партыі, што, як лічыцца, з'яўляецца структурай алігарха і «шэрага кардынала» малдаўскай палітыкі, Канстытуцыйны суд Рэспублікі Малдова вынес беспрэцэдэнтнае рашэнне.

Суд вызначыў, што адзіны геапалітычны напрамак, па якім можа рухацца Малдова, — еўрапейскі. Калі гэтую фармулёўку ўнясуць у Канстытуцыю (што таксама прадугледжвае рашэнне КС), дык на будучых парламенцкіх выбарах прарасійскія лозунгі будуць забароненыя.

Між тым, многія праеўрапейскія арганізацыі Малдовы асцярожна сустрэлі рашэнне КС. Справа не толькі ў тым, што такі падыход парушае артыкул, які сцвярджае, што ні адна ідэалогія не можа стаць дзяржаўнай, — сама перспектыва ўваходжання Малдовы ў ЕС выглядае вельмі цьмянай. Дэмакраты непакояцца, што рашэнні КС, які кантралюецца Плахатнюком, — не што іншае, як цынічная спроба алігарха атрымаць ад Захаду індульгенцыю на беззаконне ўнутры краіны.

Пакуль антырасійскія ініцыятывы Плахатнюка адбіліся выключна на адносінах з Расіяй. На мінулым тыдні супраць алігарха, які, аказваецца, мае і расійскі пашпарт, у Маскве распачалі крымінальную справу па падазрэнні ў арганізацыі заказных забойстваў.

### Эмерсан Мнангагва



Новы прэзідэнт Зімбабвэ, які мае мянушку «Кракадзіл», агучыў склад новага ўраду, адказаўшы тым самым на пытанне, куды пойдзе дзяржава пасля адлучэння ад улады 93-гадовага Роберта Мугабэ, які кіраваў краінай 37 гадоў.

Склад новага кабінета расчараваў тых, хто марыў пра дэмакратычныя рэформы. Ніводны з сяброў апазіцыі не быў запрошаны на пасаду міністраў. Практычна ўсе партфелі дасталіся сілавікам, якія і да перавароту 15 лістапада ўваходзілі ў атачэнне Мугабэ. Больш за тое, адным з міністраў стаў генерал авіяцыі, які арганізаваў у 1980-я гады масавае забойства апанентаў дыктатуры. Тады ў межах спецаперацыі пад яго кіраўніцтвам было забіта больш за 10 тысяч чалавек.

Адзінае, што змянілася ў краіне пасля перавароту, — каляндар святаў. Згодна з рашэннем «Кракадзіла», 21 лютага ў Зімбабвэ больш не будзе адзначацца як дзень нараджэння Роберта Мугабэ. Замест дня нараджэння першага кіраўніка краіны ў гэты дзень насельніцтву прапануецца святкаваць Дзень моладзі.

Калі верыць мясцовым каментатарам, інфармацыя пра новы ўрад выклікала ў насельніцтва расчараванне і апатыю. У сацыяльных сетках людзі пішуць, што дапусцілі памылку, калі падчас перавароту замест захопу інстытутаў улады аддалі ўсю ініцыятыву вайскоўцам.








# Дарагія свіныя скуры

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Сталінскія рэпрэсіі звычайна асацыююцца з жахлівымі злачынствамі: масавымі расстрэламі, масавымі высылкамі на «спецпасяленне», масавымі адпраўкамі ў ГУЛАГ. Былі, аднак, і менш жахлівыя злачынствы сталінізму. Але ад таго, што яны былі менш жахлівымі, яны не перастаюць быць злачынствамі і не становяцца менш масавымі.**




Многія тысячы жыхароў БССР былі асуджаныя па справах «непалітычных» у вузкім сэнсе слова (але адназначна палітычных у шырокім сэнсе) на кароткія турэмныя тэрміны (без адпраўкі ў ГУЛАГ), на папраўчыя працы, на штрафы ці нават умоўна. Справы гэтыя былі «непалітычнымі» ў тым сэнсе, што артыкулы, па якіх асуджалі, змяшчаліся не ў раздзеле Крымінальнага кодэкса «Контррэвалюцыйныя злачынствы», а ў іншых раздзелах КК. Пакаранне па іх было менш жорсткае. Аднак сталінскія суды добра ведалі, што размова ідзе пра справы палітычнай значнасці: трэба было загнаць сялян у калгасы і ўтрымаць іх там, прывязаць рабочых да заводаў, запалохаць усіх неадэкватна вялікімі пакараннямі за найменшыя правіны.

Суд 3 участка горада Менска (у складзе суддзі Шклярмана, членаў-засядацеляў Дуткоўскага і Кучынскага, сакратара Стрыгуна) 15 лютага 1935 года разглядаў справу Марыі Якубавай Нядбайнай, 1911 года нараджэння, малапісьменнай несудзімай беспартыйнай удавы з двума дзецьмі (меншаму было два гады). Калгасніца калгасу «Новы Двор» Строчыцкага сельсавета да калгасу мела 2,5 гектары зямлі. Правіна Марыі Нядбайнай заключалася ў тым, што, «закалоўшы кабана ў снежні месяцы 1934 года, яго асмаліла, ад чаго не адмаўляецца». Па артыкуле 152 КК БССР Марыю Нядбайную асудзілі да пяці месяцаў прымусовых папраўчых работ. «Але, — пастанавіў суд, — улічваючы, што яна ўдава, мае 2-х дзяцей, першы раз судзімая, вызначаны тэрмін лічыць умоўным на працягу аднаго года».

Артыкул 152 КК БССР гучаў наступным чынам: «Парушэнне законаў, пастаноў і правіл, якія рэгулююць гандаль і прамысловасць, калі ў іх спецыяльна не ўказана праследаванне ў адміністрацыйным парадку, выклікае — пазбаўленне свабоды да аднаго года або штраф да двух тысяч рублёў з забаронай займацца гандлем або промыслам на тэрмін да пяці год, або без такой забароны». Як бачна, гэты артыкул не прадугледжваў пакарання прымусова-папраўчымі працамі. Верагодна, суд кіраваўся аналагічным артыкулам Крымінальнага кодэкса РСФСР (артыкул 105), які прадугледжваў больш мяккую санкцыю — прымусова-папраўчыя працы на тэрмін да аднаго года ці штраф да двух тысяч рублёў.

Калі кіравацца здаровым сэнсам, гадаванне свіней на прыватным падворку для ўласнага спажывання цяжка залічыць як да гандлю, так і да прамысловасці. Але 10 лютага 1930 года УЦВК і СНК РСФСР супольнай пастановай «Аб мерапрыемствах па ўзмацненні нарыхтовак свіных скур» забаранілі ўсім дзяржаўным і кааператыўным прадпрыемствам, а таксама прыватным асобам апарваць і асмольваць свіныя скуры, і перапрацоўваць свіныя тушы як для продажу, так і для асабістага спажывання, без папярэдняга зняцця скуры.

Апарванне і асмольванне свіных туш прыватнымі асобамі, згодна з гэтай пастановай, выклікала крымінальную адказнасць па артыкуле 105 КК РСФСР. ЦВК і СНК іншых саюзных рэспублік, дзе гадавалі свіней, прынялі аналагічныя пастановы. 10 мая 1932 года УЦВК і СНК РСФСР замянілі гэтую пастанову іншай, падобнай па сэнсе, пад назвай «Аб мерапрыемствах па захаванні свіных скур». 20 красавіка 1940 года апошняя была заменена супольнай пастановай СНК СССР і ЦК УКП(б) «Аб мерапрыемствах па паляпшэнні нарыхтовак скуранай сыравіны».

Згодна з пастановай 1940 года, усе аднаасобнікі БССР мусілі здаць дзяржаве ў залік абавязковых паставак па адной свіной скуры і адной скуры авечкі ці казы штогод, а двары калгаснікаў — па адной свіной і палове скуры авечкі ці казы. Ад таго часу тых, хто не здаваў скуры, чакала адказнасць ужо не па артыкуле 152, а па артыкуле 94 («невыкананне павіннасцей») КК БССР (падрабязней пра гэты артыкул КК — у наступнай публікацыі з серыі).

Марыя Нядбайная, можна сказаць, лёгка выкруцілася. Многім іншым давалі рэальныя тэрміны прымусова-папраўчых прац.

2 лютага 1935 года адбылося выязное пасяджэнне суда 3 участка горада Менска ў Каралішчанскім сельсавеце. Суддзя Шклярман і члены-засядацелі Вараб'ёў, Франц і Касцялецкая пры сакратары Рутkоўскім разглядалі крымінальную справу Марыі Юзікавай Запольскай. Як бачна з тэксту прысуду, 50-гадовая непісьменная беспартыйная ўдава пражывала сумесна з дарослай дачкой, да калгасу мела 3 гектары зямлі, а на час суда была калгасніцай калгасу «Другая пяцігодка». Непісьменны сакратар Рутkоўскі зрабіў у дакуменце безліч памылак (іншыя сакратары гэтага суда высокай культурай мовы таксама не вылучаліся). Верагодна, па памылцы ён запісаў, што калгас месціцца ў вёсцы «Н. Сіліна» Каралішчанскага сельсавета. Непадалёк ад Каралішчавічаў ёсць вёска Сіняло (Сініла).

Судовае следства ўстанавіла «віну» Марыі Запольскай у тым, што «яна ў снежні месяцы 1934 года, забіўшы сваю свінню пудоў 4–5, замест таго, каб яе — свінню — аблупіць, асмаліла яе, ад чаго сама не адмаўляецца». Марыю Запольскую асудзілі па артыкуле 152 КК БССР да пяці месяцаў прымусовых прац па месцы работы ў калгасе з вылікам 15% з яе заробку (праца-дзён). Як і ў іншых асуджаных, у яе была магчымасць абскардзіць прысуд у пяцідзённы тэрмін.

Мы не ведаем, ці абскарджвала Марыя Запольская прысуд, але так ці інакш ён застаўся нязменным: на дакуменце стаіць адзнака, што 28 красавіка 1935 года копія прысуду была накіравана для выканання. Ад працадзён, якія і без таго аплачваліся надзвычай нізка, адабралі яшчэ 15% — у той напаўгалодны час гэта было сур'ёзным пакараннем.

У тым самым судзе 21 красавіка 1935 года суддзя Альтшулер пры членах-засядацелях Пікуліку і Маркевічы і сакратары Стрыгун разглядаў справу 36-гадовай несудзімай замужняй рабочай саўгаса «Чырвоны транспартнік» Прыгараднага сельсавета Менскага раёна Ганны Аляксандраўны Артакян. Родам падсудная была з Уздзенскага раёна, працавала ў саўгасе дзевяць гадоў, муж яе знаходзіўся на вучобе ў Оршы. Яна абвінавачвалася ў тым, што «ў студзені месяцы 1935 года забіла свайго кабана і асмаліла, а скуры не зняла, што парушыла закон ураду аб асмоле свіней». Па артыкуле 152 КК БССР яе асудзілі на шэсць месяцаў прымусова-папраўчых работ па месцы працы з вылікам 15% на карысць дзяржавы.

Жаданне есці сала на скурцы абышлося Ганне Артакян дорага. Аднак часам сяляне ўсё ж маглі абхітрыць дзяржаву. Краязнавец з Арлоўскай вобласці Уладзімір Прохараў запісаў успаміны жыхара сяла Малое Крычына Мікалая Рыгоравіча Васількава 1930 года нараджэння. Старажыл узгадаў наступнае: «Асмольваць зарэзаных свіней строга забаранялася. Да разборкі тушы свіную скуру трэба было аблупіць бярозавай ці дубовай лапатачкай і здаць — амаль задарма — дзяржаве. На карпатлівую важданіну з аблупліваннем сыходзіла нямала часу. Ды і сала без скуркі было не тое. Нярэдка ішлі на рознага кшталту хітрыкі, каб падмануць «родную» дзяржаву. Свінню заманьвалі на край сотак падалей ад хаты (250–300 метраў) увечары, на сутонні, насоўвалі ёй на галаву мех з-пад мукі (каб гучна і доўга не вішчала) і рэзалі. Употайкі, бліжэй да апоўначы, перацягвалі ў хату, саломай сяк-так асмольвалі, разбіралі».

Якімі б нязначнымі не здаваліся пакаранні для асуджаных па артыкуле 152 КК БССР, а дзеля ўзнаўлення гістарычнай справядлівасці іх варта было б рэабілітаваць як ахвяр рэпрэсій. Пакуль гэтага зроблена не было.

# «Мы — лёд пад нагамі маёра»

Мікалай ДЗЯДОК

**З пачаткам перабудовы Савецкі Саюз расквітнеў культурнай разнастайнасцю, пераважна пазычанай з Захаду. Адным з самых жаданых і доўгачаканых парываў свежага ветру перамен была рок-музыка, што да гэтага знаходзілася ў паўзабароненым стане. Напрыканцы 1980-х гадоў быць панкам, рокерам ці металістам стала амаль бяспечна. Але зусім па-іншаму сябе адчувалі тыя, хто адкрыў для сябе пратэстную культуру панк-року ўсяго на некалькі гадоў раней.**



**У 2004 годзе Летаў адхрысціўся ад палітычных сіл і праектаў. Свет палітыкаў, дзе дамінуюць усталяваныя рамкі, і дзе свабодная воля індывіда часта адступае перад воляй улады, аказаўся яму яўна не па зубах — што, у прынцыпе, натуральна для творчай асобы**

У лістападзе 1984-га ў расійскім Омску была заснаваная група «Гражданская оборона». Гэта зараз яны — «легенды рускага панк-року», на чыёй творчасці вырасла цэлае пакаленне познесавецкіх і постсавецкіх нефармалаў. А тады 20-гадовы хлопец, што паўгода таму быў адлічаны з будаўнічага ПТВ, яшчэ не ведаў, што праз 30 з лішнім гадоў стане героем шматлікіх мемаў, а яго песні выйдуць далёка за рамкі панк-субкультуры.

Тады ж ніхто яшчэ не ведаў не толькі слова «мемы», але і не падазраваў пра хуткае прышэсце славутай перабудовы — курс на галоснасць і дэмакратызацыю савецкага рэжыму быў аб'вешчаны толькі ў 1987-м. Таму Ягор і яго сябры пачалі смела іграць свой псіхадэлічны рок, які ва ўмовах правінцыяльнага таталітарызму не мог не быць палітычным пратэстам.

Праз год эпатажны панк-гурт звярнуў на сябе ўвагу омскага КДБ. Музыкаў затрымалі, прытым Ягора Летава без усялякіх тлумачэнняў літаральна скралі з кватэры. Пасля адвезлі ў КДБ і дапытвалі па 10–15 гадзін пры свеце лямпаў — дабіваліся прызнання аб супрацоўніцтве з заходнімі спецслужбамі. Не дачакаўшыся, пайшлі прывычным «брэжнеўскім» шляхам. Басіста гурта «Кузьму» (Канстанціна Рабінава) адправілі ў армію, нягледзячы на тое, што служыць ён не мог па медыцынскіх паказчыках. А Летава літаральна пахавалі жыўцом у псіхіятрычнай лякарні. Там ён прабыў усяго тры месяцы, але запомніў іх на ўсе астатняе жыццё:

«Я знаходзіўся на «ўзмоцненым забеспячэнні», на нейралептыках. Да вар'ятні я баяўся, што ёсць некаторыя рэчы, якія чалавек можа не вытрымаць. На чыста фізіялагічным узроўні не можа. Я лічыў, што гэта будзе самае жахлівае. У вар'ятні, калі мяне пачалі напампоўваць звышмоцнымі дозамі нейралептыкаў [...], я нават часова аслеп — я ўпершыню сутыкнуўся са смерцю, альбо з тым, што горш за смерць. Гэта лячэнне нейралептыкамі паўсюль аднолькавае — што ў нас, што ў Амерыцы. Усё пачынаецца з «нявусідчывасці». Пасля ўвядзення празмернай дозы лекаў тыпу галаперыдолу чалавек мусіць мабілізаваць усе свае сілы, каб кантраляваць сваё цела, інакш пачнецца істэрыка, корчы і гэтак далей. Калі чалавек ламаецца, наступае шок; ён ператвараецца ў жывёлу, якая крычыць, лямантуе, кусаецца. Далей, па правілах, ішла «прывязка». Такога чалавека прывязвалі да ложку і працягвалі калоць, пакуль у яго не перагарала «па поўнай». Пакуль у яго не ўзнікала незваротнай змены ў псіхіцы. Гэта прэпараты падаўлення, якія робяць з чалавека дэбіла. Эфект падобны на лабатамію. Чалавек робіцца пасля гэтага «мяккім», «пакладзістым» і зламаным на ўсё жыццё. Як у рамане «Палёт над гняздом зязюлі». У нейкі момант я зразумеў — каб не з'ехаць з глузду, я мушу тварыць. Я цэлы дзень хадзіў і сачыняў: пісаў апавяданні і вершы...»



Ягор Летаў здолеў выйсці — у адрозненне ад многіх іншых. Дапамагла перабудова: у сакавіку 1986-га чэкісты пачалі прынюхвацца да ветраў, што ішлі з Масквы, і ўжо не дзейнічалі так брутальна, як раней.

Як бы ў «падзяку» органам дзяржбяспекі, Летаў напісаў сваю знакамітую песню «Лёд пад нагамі маёра». Маёр у ёй — мясцовы камітэтчык Мяшкоў, які і адправіў будучую рок-зорку на прымусовае лячэнне.

*Они не знают, что такое боль*
*Они не знают, что такое смерть*
*Они не знают, что такое страх*
*Стоять одному среди червивых стен*
*Майор их передушит всех подряд, он идёт*
*Он гремит сапогами, но упал гололёд*
*И мы — лёд под ногами майора!*

*Они смеются легко, у них живые глаза*
*Они беззащитны, им нравится жить*
*И они все вместе, и так было всегда*
*Они последние, кто помнит, что такое свет*
*А у нас не осталось ничего и мы мрём*
*И всё, что мы можем — это быть лишь льдом*
*Но мы — лёд под ногами майора!*

Усё ж, нягледзячы на досвед палітычных рэпрэсій на самым пачатку музычнай кар'еры, з палітычным жыццём у Летава не задалося. Развал СССР і ідэалагічны вакуум не дапамаглі яму сфарміраваць сваю жыццёвую пазіцыю, якая б выходзіла за рамкі «далоў усё!». Напрыканцы 1980-х гадоў ён пазіцыянаваў сябе як анархіст. У 1994-м — уступіў у НБП Эдуарда Лімонава, а ўжо ў 1999-м гастраляваў у падтрымку чырвона-карычневай «Трудовой России» Віктара Анпілава — што выглядае ўвогуле парадаксальна, улічваючы, як сам Летаў пакутаваў ад СССР.

Аднак ужо ў 2004 годзе спявак адхрысціўся ад любых палітычных сіл і праектаў. Свет палітыкаў, дзе дамінуюць цвёрдыя сэнсы, усталяваныя рамкі, і дзе свабодная воля індывіда часта адступае перад воляй улады, аказаўся яму яўна не па зубах — што, у прынцыпе, натуральна для творчай асобы.

Ягор Летаў памёр у 2008 годзе. Спынілася сэрца. Хаця хтосьці кажа — ад атручвання алкаголем. Зараз пра яго палітычныя пертурбацыі ўжо мала хто ўзгадае. Але антысістэмны пафас яго песень і гісторыя рэпрэсій супраць музыкаў у таталітарнай дзяржаве будуць актуальныя яшчэ доўга.

Мы зараз скардзімся: спевакам з апазіцыйнай рэпутацыяй не даюць выступаць адкрыта, не пускаюць на тэлебачанне. Усё гэта, канешне, дрэнна. Але ўсё ж не ідзе ні ў якое параўнанне з трыма месяцамі ў «дурцы» пад галаперыдолам. І, незалежна ад палітычных поглядаў, варта аддаць належнае сілы волі таго, хто, нягледзячы на гэтае пекла, выйшаў і працягнуў сваю справу.

У таталітарнай сістэме вельмі цяжка, амаль немагчыма, стаць рэвалюцыянерам на барыкадах. Але ж стаць, маючы смеласць і адчуванне ўласнай годнасці, тым самым лёдам, на якім паслізнецца чарговы служка зла, — цалкам магчыма.

*Когда я с ними — я перестаю умирать*
*У них открытые руки и цветные слова*
*Они дышат травой и им на всё наплевать*
*А майор идёт их уничтожать*
*Никто из них не примет нас, никто не поймёт*
*Но майор подскользнётся, майор упадёт*
*Ведь мы — лёд под ногами майора!*

*Пока мы существуем — будет злой гололёд*
*И майор подскользнётся, майор упадёт*
*Ведь мы — лёд под ногами майора!*

# Венецыя Дабралюбава ды не той Арлоў

**Працяг. Пачатак у №46**

**Практычна гатовая да выдання ўнікальная ў сваім родзе кніга Сяргея Шапрана «Беларускі гістарычны анекдот» — на краўдфандзінгавай пляцоўцы «Talaka» абвешчана падпіска на яе. Гэта, па сутнасці, першае выданне ў жанры гістарычнага анекдота, дзе сабраны часам дакладныя, часам міфалагізаваныя камічныя і драматычныя гісторыі з жыцця вядомых літаратараў, а таксама дзеячаў культуры і палітыкі. «Новы Час» працягвае друкаваць выбраныя Сяргеем ШАПРАНАМ старонкі з будучай кнігі.**



Фота labadzenka.by

## Экзістэнцыялізм і генералы

Першапачатковая назва фільма «Ідзі і глядзі» Элема Клімава па сцэнары Алеся Адамовіча — «Забіць Гітлера». І хоць ідэю фільма падтрымаў Пётр Машэраў, аднак ужо практычна прыняты сцэнар «зарэзалі» генералы. Яны хоць і не маглі вымавіць слова «экзістэнцыялізм», але ў іх водгуку яно паўтаралася не менш за пяць разоў. Да сцэнару было выказана 12 заўваг. Элем Клімаў пагадзіўся толькі з адной. Вынік — фільм здымацца не будзе.

З карцінай дазволілі запусціцца толькі праз сем гадоў, пасля гібелі Машэрава. Правіць сцэнар ужо не трэба было:

— А ніхто і не патрабуе нічога мяняць! Хто вам сказаў? — здзівіўся старшыня Дзяржкамітэта па кінематаграфіі Філіп Ярмаш у адказ на ўмову Элема Клімава, што нічога ў сцэнары ён мяняць не будзе.

## Прышчэпка ад халеры

Кінарэжысёр Ігар Дабралюбаў не заўсёды меў магчымасць асабіста прадстаўляць свае карціны на кінафестывалях за мяжой.

— Аднойчы я ў Венецыю не патрапіў, — распавядаў Ігар Міхайлавіч. — Мне паведамілі, што мае дакументы спазніліся, а насамрэч… Ну, лафа ж з'ездзіць у Венецыю, тым больш — за дзяржаўныя сродкі! Таму нехта спрытны з Дзяржкіно СССР паехаў замест мяне. Я ж у гэты час ляжаў дома з прышчэпкай ад халеры, бо ў апошні момант прыйшло паведамленне, быццам у Венецыі халера. Прыбягаю ў санэпідэмстанцыю:

— Венецыя! Трэба ехаць!

Мне робяць прышчэпку і кажуць:

— Паўтара тыдні пачакаем, потым зробім другую.

— Рабіце адразу дзве! — прашу.

— Будзе балюча.

— Затое Венецыю пабачу!

Я нават чорны касцюм набыў, і «бабачку» мае жанчыны мне зрабілі. І вось усе паехалі, а я ў гэты час ляжаў дома, каленкі ад болю падцягнуты да падбароддзя…

Пасля бягу неяк на кінастудыю, лье дождж, я выцягваю з паштовай скрыні газету і толькі сеў у тралейбус, як адразу прачытаў, што мой «Іван Макаравіч» атрымаў у Венецыі прыз! І адбылося гэта без мяне…

Неаднойчы Дабралюбаўскія дакументы «не паспявалі» своечасова. Таму рэжысёр неяк пацікавіўся ў Маскве:

— Чаму так: карціна мая атрымлівае прэмію, я — яе аўтар, аднак я — тут, а фільм — там?!

І пачуў у адказ:

— Будзьце ўпэўнены, Ігар Міхайлавіч, што вашу карціну прадстаўлялі вельмі годныя людзі.

— Ахвотна веру, — толькі і заставалася пагадзіцца Дабралюбаву.

## Адхрысціўся

З уступнага слова кінарэжысёра Уладзіміра Арлова да адной са сваіх кніг:

«Ёсць пісьменнікі:

Уладзімір Арлоў — стваральнік мудрых, нібыта дзіцячых, вершыкаў, які жыве ў Сімферопалі;

Уладзімір Арлоў — які напісаў "Салёны кавун", "Альтыст Данілаў", "Парваны рубель";

Уладзімір Арлоў — аўтар шчымлівай песні "Цішыня"; калі мне налічылі за яе выкананне аўтарскі ганарар, я адмовіўся, працытаваўшы ў якасці аргумента здзіўленаму касіру радкі "ночью мне покоя не даёт горькая моя вина", якія спявалі, калі я вучыўся ў 5-м класе; ніякай "віны" за сабой не бачыў, бо не хлусіў бацькам і вучыўся на "выдатна";

Уладзімір Арлоў — мой сябар, барадаты мудрэц, выбітны эрудыт, які надаў, нарэшце, беларускай літаратуры цвёрда абазначаны пол: мужчынскі, — дык вось усе яны, вядома, не я».

## Аповесць, якую ўхвалілі Быкаў і Макаёнак

Напісаўшы аповесць «Смоліна — у год, калі былі геолагі», Уладзімір Арлоў захацеў паказаць яе Васілю Быкаву, хоць яго школьны настаўнік Барыс Клейн, які сябраваў з Быкавым, не раіў гэтага рабіць, казаў:

— Ой, Валодзя, глядзі! Быкаў — максіміст. Ён вельмі патрабавальны чалавек і жорстка ставіцца да ўсіх, хто піша.

Аднак Арлоў разважыў: калі яго раскрытыкуе адзін з найлепшых пісьменнікаў Еўропы, то што ў гэтым страшнага? І — патэлефанаваў Быкаву.

Васіль Уладзіміравіч узяў аповесць вельмі неахвотна, сказаўшы, што праз некалькі дзён патэлефануе. Але патэлефанаваў ужо назаўтра. І, прыйшоўшы да Арлова ў гасцініцу «Нёман», стаў гаварыць такія словы, што ў маладога аўтара ад хваляванняў нават змакрэлі далоні. Потым Быкаў узяў аркуш паперы і напісаў рэкамендацыйны ліст у часопіс «Неман».

У рэдакцыі аповесць усім спадабалася, яе адразу аддалі ў набор і нават надрукавалі анонс: маўляў, чытайце ў наступным нумары аповесць «Смоліна — у год, калі былі геолагі». Як раптам Арлова запрашаюць да галоўнага рэдактара «Немана» Андрэя Макаёнка. Тады толькі высветлілася, што сігнальны экзэмпляр часопіса з аповесцю патрапіў у Галоўліт, кіраўнік якога быў абураны вялікай колькасцю кпінаў з савецкай рэчаіснасці. На адрас аўтара было выказана безліч заўваг, а сам твор знялі з нумара. Да таго ж кіраўнік Галоўліта выказаў незадавальненне, што ў яго ведамства паступаюць не матэрыялы, а ўжо практычна гатовы часопіс. У адказ Макаёнак загадаў адправіць у Галоўліт усё, што ляжала ў рэдакцыйных шафах (Арлоў запомніў толькі лічбу — 700, але чаго — твораў ці папак — не памятае).

— Хай чытаюць! — крычаў Макаёнак.

У выніку аповесць Уладзіміра Арлова лягла ў «доўгую шуфляду». Хоць Андрэй Ягоравіч працягваў хадзіць з ёй па «высокіх» кабінетах:

— Хлопцы, у нас так дрэнна з гумарам! Давайце гэта надрукуем!

Урэшце справа дайшла да сакратара ЦК па ідэалогіі Аляксандра Кузьміна, якому аповесць спадабалася. І разумны Аляксандр Трыфанавіч, выбраўшы адтуль самую бяскрыўдную гісторыю пра двух старых, якія ў вайну сябравалі з пагранічнікамі, а цяпер бачаць па помніку знаёмыя прозвішчы загінулых, прачытаў яе Машэраву. (Пасля Макаёнак заўважыў Арлову: «Ты ўдастоіўся такога гонару, якога нават я ніколі не ўдастойваўся, — каб адзін сакратар ЦК другому сакратару ўслых чытаў твой твор!»)

— Навошта ж нам у гэта ўмешвацца? — запытаўся першы сакратар ЦК. — Рэдакцыя часопіса «Неман» — грамадская арганізацыя, Галоўліт — таксама не партыйная ўстанова. Няхай дамовяцца паміж сабой.

У выніку на адрас аповесці было зроблена ўсяго толькі дванаццаць заўваг, прычым даволі дробязных. Аднак калі Арлоў пачаў «касметычна» правіць свой твор, тут яго і панесла: у аповесці пачалі з'яўляцца не толькі новыя абзацы, але і вобразы! Асабліва ўдалася сцэна святочнай дэманстрацыі ў мястэчку, дзе калоне дэманстрантаў давялося тры разы прайсці міма трыбуны, каб аркестр мог дайграць марш да канца. Ці, скажам, расхінаўся катах кукурузы, і адтуль выскоквала жывёлавод з парасём на руках, якая выкрыквала: «Свинарки, вам почёт и слава! Свинины ждёт от вас держава!» Або гучала: «Животноводы, добивайтесь четырёхграммового ежесуточного привеса от ремонтного молодняка!» Гэта былі сапраўдныя лозунгі тых часоў — Арлоў нічога не выдумляў…

«Смоліна — у год, калі былі геолагі» выйшла ў 1975 годзе. Макаёнак пасля сказаў аўтару:

— Я думаў, што толькі паправіш аповесць, а ты нават палепшыў яе.

## Пытанне

Кінарэжысёра Уладзіміра Арлова Яўген Глебаў называў самым даўнім і верным сябрам. Таму і распытваю Уладзіміра Аляксандравіча пра славутага кампазітара. Ён у адказ, смеючыся:

— Аднойчы мяне запрасілі сказаць колькі слоў пра Глебава падчас яго творчай вечарыны. Але колькі я ні стараўся штонебудзь успомніць, усе гісторыі былі абавязкова звязаны з тым, што мы выпівалі. Але потым усё ж узгадаў дзве гісторыі без гэтага. Дык вам пра гэта ці без гэтага?..

## Як Глебаў развіццё беларускай музыкі спыняў

Глебаў, ведаючы, чаго ён варты, часам іранізаваў над гэтым. Так, аднойчы падчас абеду заўважыў кінарэжысёру Уладзіміру Арлову:

— Вось у гэты момант развіццё беларускай музыкі цалкам спынілася. Палічы: у нашым Саюзе кампазітараў 44 члена. З іх кампазітараў — не музыкантаў і музыказнаўцаў, а кампазітараў — 20. Сярод іх пішуць 10, а пішуць хутка і актыўна толькі 5. Тых, хто піша хутка і добра, — я адзін. А мы вось з табой сядзім зараз і па чарачцы бяром…

## Не перашкаджайце!

Дыялог паміж Яўгенам Глебавым і высокім партыйным чыноўнікам:

— Партыя ўказвае на тое, якую вы, кампазітары, павінны пісаць музыку. А мы тут дзеля таго, каб дапамагаць вам у гэтым.

— Нам не трэба дапамагаць — вы не перашкаджайце!

## Творцы і ўладары

З запісаў Уладзіміра Арлова пра Яўгена Глебава:

«Аднойчы задумленна спытаў:

— А ці ведаеш, пры якім каралі жыў Бетховен?

Я ніколі не задумваўся, але ж сапраўды: жыў жа пры нейкім каралі; і Мальер, і Бах, і Мусаргскі тварылі пры нейкіх валадарах…

— Не ведаю… А ты?

— Ну, я ведаю, бо паглядзеў у энцыклапедыі. Дык вось гэтага яны нам, творцам, даравацьне могуць!»

## Шклярэўскі і Някляеў

Вось ужо колькі гадоў Уладзіміру Някляеву тэлефануе па начах з Масквы Ігар Шклярэўскі. Тэлефануе, вярнуўшыся з казіно ў свой адзінотны дом, і кожны раз, перш чым разбуджаны Някляеў паспявае паслаць яго куды-небудзь далей за Маскву, кажа:

— Калі табе няма каму патэлефанаваць сярод ночы, тады табе ўвогуле няма каму патэлефанаваць.

## Што такое старасць?

Шклярэўскі тэлефануе Някляеву і кажа:

— Мне 70, а я пачуваюся ўдвая маладзейшым, я вальсую па начах, напісаўшы нечаканы тэкст, гуляю ў казіно, чытаю кнігі, я адчуваю сябе шчаслівым… і раптам заўважаю, што ні пра што не мару. Не ведаю, пра што?.. Вось гэта і ёсць старасць.

**Працяг будзе**

### Шаноўныя чытачы!

У мінулым нумары памылкова замест адказаў на крыжаванку ў №42 былі надрукаваныя адказы на крыжаванку з №38. Прыносім свае прабачэнні.

**Адказы на крыжаванку «Рэвалюцыю рыхтуюць мысліцелі, а здзяйсняюць нягоднікі, бандыты» (НЧ, №42 ад 10 лістапада).**

**Па гарызанталі:** 1. Карасі. 4. Ідэал. 7. Бунт. 11. Малох. 12. Дно. 13. Пар. 15. Воля. 16. Кар'ер. 18. Рыцар. 19. Звоз. 21. Шыя. 22. Суп. 24. Народ. 27. Абед. 28. Шторм. 29. Ерэтык.

**Па вертыкалі:** 1. Ку. 2. Рэвалюцыя. 3. Сёмы. 5. Дух. 6. Аід. 8. Тэрарызм. 9. Ял. 10. Гонка. 13. Пераварот. 14. Дварышча. 17. Прэса. 20. Удар. 23. Пот. 24. Нар. 25. Рэ. 26. Як.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1197

Падпісана да друку 15.12.2017. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.